Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 15 мая 1987 г. № 20 (3378) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У НУМАРЫ:



На рэстаўрацыі Лідскага замка.
Фота А. ШАБЛЮКА.

НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА

*Як ужо паведамлялася ў друку, 27—28 красавіка ў Маскве адбыўся чарговы пленум праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. Гэта быў першы пасля пісьменніцкага з'езда пленум, ён рыхтаваўся і праходзіў у грамадскай атмасферы, вызначанай XXVII з'ездам партыі, студзеньскім Пленумам ЦК КПСС, іншымі падзеямі і партыйнымі дакументамі апошняга часу. Усё гэта не магло не адбіцца на характары і ідэйна-тэматычным змесце дыскусіі, якая адбылася на пленуме. Роля і значэнне мастакоўскага слова ў перабудове і дэмакратызацыі жыцця краіны, задачы творчага саюза ў выхаванні маладога сучасніка, у барацьбе з негатыўнымі з'явамі і ў асяроддзі моладзі, творчае і арганізацыйнае абнаўленне літаратурнага друку і кнігавыдавецкай справы, надзённыя пытанні развіцця нацыянальных моў і літаратур, адносіны да гістарычнай і культурнай спадчыны — гэтыя і іншыя праблемы былі ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў пленума.*

*У спрэчках па дакладзе прынялі ўдзел А. Адамовіч, які гаварыў аб рэальнасцях, «не задумвацца над якімі літаратура не можа і не мае права», і першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч, выступленне якога друкуем ніжэй.*

# Пачатак добрага зруху

*Выступленне Ніла ГІЛЕВІЧА*

Самаправаздачы не будзе, але паўслова самакрытыкі — дазвольце. Перабудова, і перш за ўсё творчая, пакуль што ідзе ў нас, у беларускай літаратуры, слаба. Не толькі не набірае сілу, а быццам нават і задумалася: а ці варта? Ці варта выходзіць з апатыі, з абыякавасці і бестурботнасці? Некалькі моцных і вострых, у духу часу, вершаў Пімена Панчанкі — занадта мала для жаданай антытэзы. Адзін пераканаўчы прыклад. Роўна год назад на Палессі здарылася вялікая бяда. Мінуў цэлы год — але так і не відаць, што гэта ўскалыхнула, узрушыла нашых пісьменнікаў, што прыкметна паболела ў іх слове заклапочанасці, болю, трывогі. Не пра адчай і не пра паніку гаворка. Не. Але і нельга ж нам пасля Чарнобыля пісаць так, быццам нічога не здарылася, быццам не дадзены ўрок найглыбейшага грамадска-сацыяльнага сэнсу. Быццам нам не стала ў шмат разоў ясней: што ёсць годнасць і што ёсць ганьба, як трэба весці нам нашы справы і як не трэба.

У сувязі з гэтым — зусім коратка пра такую «дробязь» у нашым творчым жыцці, як сумленне. Пяць гадоў назад у кнізе публіцыстыкі «Покліч жыцця і часу» мне давялося выказацца пра гэта — і я прашу прабачэння за цытату: «Наша літаратура стаіць на парозе новага, больш высокага разумення свайго маральнага абавязку. Наспяваюць умовы, у якіх намнога больш, чым яшчэ нядаўна, чым учора і нават сёння, будзе гаварыць сваё слова **сумленне.** Сімптомы гэтага добрага зруху ўжо адчуваюцца, ужо наяве яго прыкметы. Усё ідзе к гэтаму — к больш адчувальнаму панаванню чалавечага, грамадзянскага, камуністычнага сумлення ва ўсім духоўным жыцці нашага грамадства, і перш за ўсё — у літаратуры і мастацтве». Такі зрух, вядома ж, не па нораву тым. каму незразумела, што значыць жыць і паводзіць сябе ў жыцці сумленна. Бяда, калі ў іх ліку знаходзяцца апекуны літаратурнага працэсу, кнігавыдаўцы, тыя, што могуць уплываць на лёс кнігі і нават на лёс аўтара. Але яшчэ горш, яшчэ большая бяда, калі сам пісьменнік пераступае праз сумленне, здраджвае сваім перакананням, сваім маральным прынцыпам. А менавіта — калі ён свядома гаворыць і піша няпраўду. Вось пра што, мне здаецца, нам варта сёння думаць перш за ўсё.

У партыйных дакументах апошняга часу акцэнтуецца ўвага на неабходнасці ўзмацніць інтэрнацыянальнае выхаванне ў нашай шматнацыянальнай сацыялістычнай Айчыне. Вялікае і складанае гэта пытанне — інтэрнацыянальнае выхаванне ў сучасных умовах, але пытанне, ад якога адступацца мы не маем права, яно — састаўная частка агульнай задачы па перабудове духоўнага жыцця грамадства. Гаварыць пра гэта заўсёды крыху рызыкоўна — усіх граней у кароткім слове не ахопіш, а скажаш пра адну — прадузятыя таварышы могуць абвінаваціць у вузкім, аднабаковым поглядзе. Безліч разоў я задаваў сам сабе пытанне: ці можа быць сапраўдным інтэрнацыяналістам і наогул паўнацэнным грамадзянінам нацыянальны нігіліст, які не паважае мову і культуру свайго народа? Я звяртаўся да думак многіх разумнейшых, адукаванейшых людзей свету, але прывяду словы толькі аднаго з іх — аднаго з самых культурных рускіх пісьменнікаў савецкай эпохі К. Г. Паустоўскага: «Па адносінах кожнага чалавека да сваёй мовы можна зусім дакладна меркаваць не толькі аб яго культурным узроўні, але і аб яго грамадзянскай вартасці. Сапраўдная любоў да сваёй краіны немагчымая без любві да сваёй мовы. Чалавек, абыякавы да роднай мовы — дзікун. Ён шкодаsupposedносны па самой сваёй сутнасці. Таму што яго абыякавасць да мовы тлумачыцца паўнейшай абыякавасцю да мінулага, сённяшняга і будучага свайго народа».

Але ж мы, на жаль, яшчэ нямала плодзім менавіта нацыянальных нігілістаў. Колькі юных маіх аднапляменнікаў уваходзяць у свядомае жыццё нацыянальна несвядомымі, не ведаючы сваёй роднай мовы, не цікавячыся нацыянальнай мастацкай культурай, гісторыяй свайго народа. Натуральна, што менавіта гэтыя нацыянальна бясполыя маладыя людзі ўтвараюць асяроддзе, у якім лягчэй успрымаецца ўсялякая ідэалагічная пошасць, лягчэй расцвітае бездухоўнасць, пошласць, цынізм, фарміруюцца антыпатрыятычныя настроі.

Месяц назад мы ў Саюзе пісьменнікаў БССР падводзілі вынікі «Кніжчынага тыдня», і там амаль усе выступіўшыя госці выказаліся з выпадку аднаго адкрыцця, якое вельмі засмуціла іх. Яны даведаліся, што ні ў сталіцы Беларусі Мінску, ні ў адным абласным цэнтры, ні ў адным горадзе і нават гарадскім пасёлку рэспублікі практычна няма ніводнай беларускай школы. Ёсць англійскія, французскія, іспанскія — а беларускіх няма. Госці выказалі глыбокае шкадаванне і вялікае недаўменне: «Каму і навошта гэта трэба? Каму і навошта трэба, каб з жыцця адыходзіла старажытная, літаратурна цудоўна распрацаваная, на думку спецыялістаў — адна з самых мілагучных славянскіх моў?»

Такая на сённяшні дзень моўная сітуацыя ў Беларусі, якая склалася і па аб'ектыўных і па суб'ектыўных, валюнтарысцкіх прычынах. Такія факты, ад якіх, як вядома, нікуды не ўцячэш, хоць мы і прывыклі абыходзіць іх збоку. Паверце, няма нічога больш цяжкага для душы, чым гаварыць пра гэта перад тварам нашага цудоўнага брацтва. Але і не гаварыць — нельга. Бо ёсць жа неаспрэчная ісціна: без мовы няма і не можа быць літаратуры. Мастацкі ўзровень твора прама залежыць ад моўнага майстэрства пісьменніка, ад багацця і жывасці яго лексікі, натуральнасці гучання фразы. Дзе і як можа беларускі пісьменнік узбагачаць і ўдасканальваць сваю рабочую мову? Нацыянальная ж мова развіваецца ў натуральных умовах — у быце, у сям'і, у вытворчых адносінах людзей... Ну, а калі гэтых натуральных умоў для яе развіцця няма? Якая ж перспектыва нашай нацыянальнай літаратуры ды і ўсёй беларускай культуры наогул, паколькі мова — першаэлемент культуры? Як вы, спадзяюся, разумееце, для нас сёння гэта — пытанне з пытанняў, мы глыбока заклапочаны моўнай сітуацыяй, што склалася ў Беларусі. Але хіба наш клопат — гэта толькі наш клопат?.. Узаемаразуменне і ўзаемапавага, а калі трэба — і ўзаемадапамога ўсіх нацыянальных атрадаў літаратараў саюза — гэта закон нашага жыцця, нашага брацтва. Нядаўна мы, беларускія пісьменнікі і ўсе патрыёты беларускай культуры, перажылі выпадак, калі раптам, з усёй глыбокахвалюючай яснасцю, адчулі, якое ж цудоўнае яно — наша сапраўды інтэрнацыянальнае ўзаемаразуменне. Гаворка ідзе пра сціплую публікацыю на старонках «Литературной газеты» вершаў выдатнага беларускага паэта-дэмакрата Алеся Гаруна і артыкула пра яго пад рубрыкай «Да 100-годдзя з дня нараджэння». Мяркую, што большасць з вас не надалі асаблівага значэння гэтай публікацыі — маўляў, усё нармальна, тым больш, што вершы выдатныя, а творчы лёс паэта ў поўным сэнсе слова трагічны. Дык вось, гэтая публікацыя не адносіцца да звычайных. Па-першае, ужо амаль 60 гадоў, як творчасць Алеся Гаруна замоўчваецца — з канца 20-х гадоў у Беларусі не выдадзена ніводнай яго кнігі; па-другое, у сябе, на радзіме паэта, стагоддзе з дня яго нараджэння мы так і не змаглі адзначыць. Усё па той жа, дагэтуль непераадоленай, прычыне коснасці і дагматызму.

Але я павінен сказаць і пра тое ў нашай усесаюзнай літаратурнай прэсе і ў дзейнасці праўлення саюза, што нас засмучае, што не памагае ў рабоце, а наадварот — ускладняе сітуацыю. Звяртаюся з просьбай і, калі ласка, зразумейце правільна: больш давярайце ў вырашэнні тых ці іншых пытанняў нам, не лічыце, што вы лепей ведаеце людзей і становішча спраў у рэспубліцы. І прэстыжныя паездкі адных і тых жа таварышаў, і шчодрае прысуджэнне ім жа ўсемагчымых прэмій, і кірмашна-карусельнае мільгаценне адных і тых жа 3—4 асоб з усёй вялікай літаратуры, і, наадварот, вострая крытыка ў друку ці замоўчванне іншых, не менш, а то і больш таленавітых, — усё гэта рэчы, як паказвае жыццё, зусім не бяскрыўдныя. Бо калі, напрыклад, хтосьці выкарыстоўвае ўсесаюзны друк для негатыўнай ацэнкі свайго малавядомага калегі з рэспублікі — пакрыўджаны наўрад ці зможа адказаць з такой жа высокай трыбуны. І застаецца пакрыўджаным. А крыўда, акрамя злосці і варожасці, нічога не нараджае. Вось і хочацца спытацца: тады навошта ўсё гэта? У імя чаго, браткі, шчыруем?

Цяпер пра некаторыя прыватныя, але вельмі важныя для развіцця нашай літаратуры, практычныя пытанні. У 1988 годзе ў Беларусі выйдзе з друку адна-адзіная «першая кніжачка» паэзіі. Адна—на ўсю 10-мільённую Беларусь! А маглі б выдаць свае вершы дзесяць маладых—як мінімум! І з гэтых дзесяці — глядзіш — два-тры выраслі б у сапраўдных паэтаў! Але няма месца гэтым дзесяці першым, пачынаючым. Няма! Каб даць ім месца — трэба пацясніць дзесяць вядомых, ці нават славутых. Але хіба так бывае? Ды і хіба гэта вырашэнне пытання? Чаму маладога трэба выдаваць за кошт вядомага, кніга якога таксама новая і яе чакаюць чытачы?

Каб знайсці выйсце з цяжкага становішча, — яшчэ 25 гадоў назад нарадзілася ў нас ідэя — выдаваць бібліятэчку часопіса «Маладосць»: дванаццаць маленькіх першых кніжак паэзіі, прозы, драматургіі ў год. Здавалася б: як проста і як танна! І што ж? Не было за 25 гадоў ніводнага з'езда ці пленума пісьменнікаў рэспублікі, дзе б не гаварылася пра неабходнасць гэтага выдання, дзе б не прымалася пастанова — прасіць адпаведныя інстанцыі... 25 гадоў! — а бібліятэчкі ўсё як не было, так і няма! Па сённяшні дзень — такое «грандыёзнае» пытанне не вырашана! Нехта недзе запярэчвае,— тлумачаць нам. Дзіўна і незразумела! Хто ж вы, шаноўныя таварышы, і чаму вы так не хочаце, каб у беларускую літаратуру хутчэй уваходзілі новыя таленты?..

Ці вось яшчэ — іншы факт. Гадоў дзесяць назад скарацілі лістаж нашых часопісаў — выданняў Саюза пісьменнікаў Беларусі. З паперай было цяжка ў краіне. Гэта адмоўна адбілася на якасці друку і мастацкім афармленні часопісаў, што ў сваю чаргу прывяло да зніжэння іх тыражоў: дробныя шрыфты чытаць цяжка, непрыемна. Вырашылася ў краіне праблема з паперай, але ніяк не рашаецца праблема з вяртаннем ранейшага аб'ёму нашым часопісам. А нам жа даўно патрэбен новы часопіс! Саюз пісьменнікаў рэспублікі за апошнія 35 гадоў вырас у тры разы, а тоўстых літаратурных часопісаў на беларускай мове за гэтыя 35 гадоў у нас не прыбавілася.

Пасля сказанага будзе зразумела, чаму ў асяроддзі беларускіх літаратараў таксама захваляваліся, калі пачулі аб стварэнні ў Маскве кааператыўнага выдавецтва. Пытанне пісьменнікі ставяць напрамкі: а ці будзе дазволена нам у Беларусі зрабіць тое ж самае? Асабіста я хачу сказаць наступнае: калі іншага выйсця няма, — я таксама за кааператыўнае выдавецтва. Але разам з тым—у душы нейкае пачуццё крыўды, а можа, нават і сораму. Крыўды і сораму за нашу родную дзяржаву. Бо давайце перш за ўсё скажам сабе з усёй шчырасцю, што гэта азначае. А гэта азначае, што дзяржава распісваецца ў сваім бяссіллі і капітулюе перад ёй жа створанай махінай Дзяржкамвыда. Выправіць становішча, нават ва ўмовах перабудовы, яна не можа. Дзяржаўнае выдавецтва не можа за 3—6 месяцаў ператварыць рукапіс у кнігу, а самадзейнае, выбачайце, кааператыўнае — можа! Знойдзе і машыны, і паперу, і ўсё іншае. Дзіўна і нават вельмі дзіўна! Забюракрацілі кнігавыдавецкую справу да абсурду, да смехатворнага становішча. Каб выдаць жменю вершаў маладога паэта — патрабуецца ў лепшым выпадку тры, а то і пяць, і ўсе сем казачных гадоў. Але ці не хопіць быць у чыхсьці вачах пасмешышчам? Ці не час пачаць паважаць сябе — сваю вялікую краіну і яе вялікую культуру?

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### МЕДАЛЬ ІМЯ ФАДЗЕЕВА— АНАТОЛЮ СУЛЬЯНАВУ

**За вялікі творчы ўклад у развіццё ваенна-патрыятычнай літаратуры і ў сувязі з 42-й гадавінай Дня Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне сакратарыят праўлення СП СССР і Галоўнае палітычнае ўпраўленне Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту прысудзілі чарговыя медалі імя Аляксандра Фадзеева.**

**Сярэбранага медаля за раман «Расколатае неба», выпушчаны выдавецтвам «Мастацкая літаратура», удастоены Анатоль Сульянаў.**

### ДНІ ВЫВУЧЭННЯ ПОПЫТУ

**Упершыню ў рэспубліцы прайшлі Дні вывучэння попыту і распаўсюджання кніг на беларускай мове. Больш чым на 20 прадпрыемствах, у навучальных установах, у інтэрнатах, бібліятэках Магілёва і Бабруйска пісьменнікі В. Гігевіч, Л. Прокша, Л. Левановіч, П. Шасцерыкоў, С. Басуматрава расказвалі аб выданнях, якія выйдуць неўзабаве ў «Мастацкай літаратуры», гаварылі аб сваёй творчасці і творчасці калег.**

**Асабліва цікавымі былі сустрэчы на заводзе «Электрарухавік», на аўтазаводзе імя Кірава, на стужкаткацкай фабрыцы, у бібліятэчным тэхнікуме, у педагагічным інстытуце, у прафесійна-тэхнічных вучылішчах №№ 4, 33, 70, 98 г. Магілёва; на заводзе трактарных дэталей і агрэгатаў, у вытворчым аб'яднанні «Бабруйскшына», санаторыі імя У. І. Леніна — у горадзе Бабруйску.**

**Паўсюдна быў арганізаваны продаж кніг, прыём папярэдніх заказаў на выданні.**

**У днях прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрстваў культуры, асветы, вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, упраўлення кніжнага гандлю Дзяржкамвыда БССР, кнігалюбы.**

**Выказваліся пажаданні, каб больш выходзіла кніжак для дзяцей, асабліва для пазакласнага чытання, каб на старонках газет і часопісаў часцей друкавалася інфармацыя аб выданнях, якія выходзяць ці рыхтуюцца да выпуску.**

**М. СУЛІМАЎ.**

### ПЕРШЫ Ў ВОБЛАСЦІ

**У Доме культуры вытворчага аб'яднання «Бабруйскдрэў» імя 60-годдзя Беларускай ССР адкрыўся першы ў Магілёўскай вобласці маладзёжны культурны цэнтр, створаны па ініцыятыве Дома культуры і Ленінскага РК ЛКСМБ г. Бабруйска. Для гэтага тут створаны ўсе ўмовы. Абсталявана літаратурна-музычная гасціная з безалкагольным барам. Неардынарна аформлены інтэр'ер са спецыяльна распрацаванай мяккай мэбляй ствараюць спрыяльную ўтульную абстаноўку. Прыняла першых сваіх наведвальнікаў адна з нямногіх у рэспубліцы відэатэк. Ёсць іграўыя аўтаматы, кіна- і лекцыйная залы, утульнае кафэ.**

**Адкрылі цэнтр вялікім гарадскім конкурсам аматараў брэйк-данса, паказам тэатра мод. Пачаў працаваць дыскусійны клуб. Адбыўся прагляд новага дакументальнага фільма «Ці лёгка быць маладым». Дарэчы, тут у гасцінай будуць працаваць каля 15 аматарскіх аб'яднанняў.**

**Стварэнне такога адзінага ў вобласці цэнтра адпачынку стала магчымым дзякуючы ўвазе адміністрацыі і партыйнага камітэта буйнейшага аб'яднання. Генеральны дырэктар Уладзімір Дзмітрыевіч Таранаў і сакратар парткома Іван Фядотавіч Казакоў — штодзённыя наведвальнікі Дома культуры, мерапрыемстваў, якія праходзяць тут, часта бываюць на рэпетыцыях калектываў мастацкай самадзейнасці.**

**Э. ЛАПЫШ,**
**дырэктар Дома культуры «Бабруйскдрэў».**

# ДЗВЕ ШТОДЗЁННЫЯ ГАДЗІНЫ

**Агляд радыёперадач для дзяцей**

СПАЧАТКУ такая лічба: 5954. Гэта колькасць лістоў, якія атрымала за першы квартал гэтага года дзіцячая рэдакцыя рэспубліканскага радыё. *Пошта, як бачым,* даволі багатая і, дарэчы, значна большая мінулагодняй за той жа тэрмін.

У пошце, як і на моры, бываюць свае прылівы і адлівы, падчас непрадказальныя і нечаканыя. Пры ўсім пры тым цяжка не заўважыць змен, якія зараз адбываюцца на радыё і, у прыватнасці, у яго дзіцячай рэдакцыі. Сталі больш разнастайнымі і актуальнымі матэрыялы, што прапаноўваюць сваім слухачам праграмы «Рамантыкі» і «Юныя ленінцы», абнавіўся «Глобус», з'явілася некалькі новых цыклавых перадач.

Так, леташняй восенню адбылася прэм'ера цыкла «Размова па шчырасці» (рэдактар Д. Ялугіна). Цыкл — несумненная ўдача стваральнікаў. Яны скарысталі, здавалася б, самую простую і далёка не заўсёды эфектыўную форму выхавання: гутарку людзей старэйшага пакалення (у дадзеным выпадку пісьменнікаў) са школьнікамі, але пастараліся пры гэтым пазбегнуць дыдактызму, павучальнасці. Атрымалася менавіта размова па шчырасці — шчырая і вострая. Адразу пасля першага выпуску перадачы рэдакцыя атрымала вялікую колькасць лістоў. Пісалі не толькі школьнікі і студэнты, а і людзі, чый узрост ужо даўно выйшаў за юначыя межы. У розны час перад мікрафонам выступілі В. Вітка, Г. Каржанеўская, А. Вольскі, Р. Баравікова, У. Ліпскі. Розныя былі праблемы, якія яны ўзнімалі: стаўленне да сваёй спадчыны, да роднай мовы, праблемы лідэрства ў класе, мяшчанства, душэўнай чэрствасці, падхалімства. Шматлікая пошта даказвае, што гэтыя пытанні хвалююць сучаснага школьніка. Праўда, хацелася б большай разнастайнасці ў межах гэтай перадачы. Можна было б, напрыклад, пабываць у школах і, запісаўшы праблемную гутарку з вучнямі, даць для падагульнення слова пісьменніку. Можна выкарыстоўваць і лісты-водгукі слухачоў. Карацей — каб адчувалася зваротная сувязь з адрасатамі перадачы.

Калі «Размова па шчырасці» адрасуецца перш за ўсё старшакласнікам, то перадача «Хвілінкі-весялінкі» (рэдактар Г. Шаблінская) разлічана на самых маленькіх. Ёсць у яе свой вядучы, хлопчык Бульбінка, які загадвае загадкі і чытае смяшынкі, прысланыя дзецьмі. Перад літаратурна-музычным аддзелам рэдакцыі стаіць складаная задача зрабіць перадачу не толькі *пацяшальнай, але і выхаваўчай*. А пагэтаму, канечне ж, нельга абмяжоўвацца аднымі смяшынкамі і загадкамі. У бліжэйшы час плануюцца сустрэчы Бульбінкі з хлопчыкамі і дзяўчынкамі дзіцячых садоў, развучванне з імі цікавых гульняў і вершаў на роднай мове.

Мяркуючы па пошце, знайшоў сваіх шматлікіх прыхільнікаў і новы цыкл «Вас запрашае камп'ютэр МДС» (МДС— мой добры сябар), які рыхтуе паэтэса Раіса Баравікова. Перадача знаёміць школьнікаў з тайнамі Зямлі і Сусвету. Неабходнасць яе зразумелая, тым болей, што нічога падобнага ёй на нашым радыё для дзяцей не прыгадваецца. Добрыя сцэнары *(перадача сюжэтная)* і музычнае афармленне, ігра акцёраў робяць перадачу жывой і цікавай. Дарэчы, пра акцёраў. Алег Сідорчык, Наталля Ваўчок і Аляксандр Паласкоў працуюць у Тэатры юнага гледача, а Станіслаў Галуза — у Рускім драматычным.

Рэгулярна вядзецца ў эфіры прапаганда новых кніжак для дзяцей. Не так даўно ўбачыў свет першы выпуск перадачы «Новы год—новыя кнігі», які пазнаёміў слухачоў з планамі выдавецтва «Юнацтва» на сёлета. Можна ўспомніць і яшчэ некалькі цыклаў, у якіх гаворка ідзе пра навінкі дзіцячай літаратуры: «Пісьменнік і кніга», «Старонкі будучай кнігі», «Твая новая кніга». Зрэшты, радыёпастаноўкі, агляды свежых нумароў «Вясёлкі» і «Бярозкі», штомесячны радыёзборнік «Верасок»—усё вышэйпералічанае ці не тая ж самая прапаганда?

І вось тут паўстае праблема, якая даўно і трывала замацавалася на дзіцячым радыё: ШТО ПРАПАГАНДАВАЦЬ? Магчыма, нехта скептычна ўсміхнецца: «Што за пытанне? Вядома, прапагандаваць трэба *лепшае*». Але гэта вельмі спрошчаны падыход да справы. Давайце прыгадаем радкі з артыкула Я. Каршукова («ЛіМ», 13.III.87): «Не хочацца быць скептыкам, але сённяшні стан беларускай дзіцячай літаратуры не настройвае на аптымістычны лад. Пра гэта ішла гаворка і на пісьменніцкім з'ездзе. Цяжка прыгадаць яркі, запамінальны твор для дзяцей і падлеткаў, напісаны ў апошнія гады. А папярэднія гады? Яны, на жаль, таксама не пазначаны вялікім плёнам».

На сходзе секцыі дзіцячай і юнацкай літаратуры загадчык літаратурна-музычнага аддзела дзіцячай рэдакцыі рэспубліканскага радыё Н. Камарова з сумам канстатавала: «Мы можам сцвярджаць, што дзіцячай радыёдраматургіі ў нас няма. Акрамя некалькіх невялічкіх радыёп'ес, якія можна літаральна пералічыць на пальцах, няма ніводнага буйнога драматычнага твора, напісанага спецыяльна для радыё». Тое ж становішча і сёння. *Дзе ўжо там гаварыць* пра нейкі адбор, пра актуальнасць узнятых пытанняў, пра смеласць аўтарскага пошуку!

Пяць разоў на тыдзень выходзіць у эфір радыёкалыханка, і яе аўтары вымушаны зноў і зноў паўтараць адны і тыя ж казкі. І рады б зрабіць пастаноўку новых, ды дзе іх узяць?

Але і тое, што маюць пісьменнікі, не дужа ахвотна нясуць на радыё. Шчыра кажучы, прычына гэтага для мяне не зусім незразумелая. Магчыма, *справа ў тым, што пісьменнік* не заўсёды можа паслухаць па радыё свае творы, што жыццё іх вельмі кароткае, але ж радыё мае свае перавагі перад друкаванымі органамі. Яно мае магчымасць размаўляць адразу з вялікай аўдыторыяй. Ніводная цікавая перадача не застаецца па-за ўвагай слухачоў. А мо пісьменнікі загадзя ўпэўнены, што іх творы не выклічуць цікавасці, і не хочуць адштурхоўваць пакупніка ад сваіх кніжак?..

Так ці іначай, а трапляе на радыё не заўсёды лепшае. Прыносяць творы звычайна маладыя (або далёка не маладыя), невядомыя шырокаму колу чытачоў аўтары. Вось тады і гучаць у эфіры вершыкі накшталт гэтага:

**Дождж, дождж крапаў, марасіў,**
**Прыпускаў, траву касіў.**
**Ліўнем ліў, сцяной стаяў,**
**Барабаніў, луг таптаў.**
**Дождж сляпы і праліўны,**
**Нарастаючы, грыбны,**
**Аблажны, вісячы, скоры...**
і г. д.

Гэты верш рэдакцыя прапанавала сваім слухачам у адным з леташніх выпускаў «Вераска». І каб жа толькі гэты! Большасць аўтараў «Вераска» — пачынаючыя літаратары. *Праўда, думка, што трэба падтрымліваць маладыя таленты,* якую мне выказалі ў рэдакцыі, у адносінах да гэтай перадачы ўспрымаецца з пэўным недаверам. Бо ў «Вераску» часта гучыць тое, што не надрукавала б ні адно выданне. (Ці не таму сарамліва ўтойваюцца імёны аўтараў у канцы перадачы?)

Выступленне пісьменніка перад мікрафонам з расказам пра сябе, пра ўжо створанае ім і толькі задуманае заўсёды мае вялікі рэзананс, і даводзіцца адно шкадаваць, што нашы літаратары не вельмі ахвотна згаджаюцца на такія выступленні.

З тых перадач, якія шмат гадоў выходзяць у эфір, карыстаецца нязменнай папулярнасцю ў школьнікаў «Жывое слова». Больш за дваццаць гадоў яго рыхтуе пісьменнік У. Юрэвіч. *Перадача апошнім часам значна абнавілася і старэць*, відавочна, не збіраецца.

Многа прыхільнікаў у перадачы «Вашы першыя сцяжынкі» і яе вядучага М. Чарняўскага.

З цікавасцю слухаецца радыёцыкл «Зямля бацькоў нашых» (аўтар Я. Пархута).

Магчыма, *варта было б падумаць* і над новым цыклам, дзе распавядалася б пра нашу гісторыю — пра нацыянальныя традыцыі і абрады, бо, скажам, «Зямля бацькоў нашых» усё-такі больш звернута да сучаснасці.

Як паказвае практыка, дзецям больш па душы сюжэтныя перадачы, у якіх добрае музычнае афармленне, у якіх ёсць свае вядучыя. Невыпадкова ж у некаторых лістах на адрас «Хвілінак - весялінак» былі просьбы прыслаць фотакартку хлопчыка Бульбінкі. Я не заклікаю ўсе перадачы рабіць сюжэтнымі, але не трэба забываць, што дзеці больш за ўсё не любяць аднастайнасці, за-

# ГАРЫЗОНТЫ РУПЛІВАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).**

аднаўленне гарадоў, прамысловасці, вяскоўцы патокам пацягнуліся ў горад. Асабліва маладыя, асабліва жанчыны. Мінск, як і іншыя гарады, адбудавалі ў асноўным жанчыны. З канца пяцідзесятых гадоў развіццё НТР узмацніла патрэбнасць прамысловасці ў рабочай сіле. НТР — з'ява глабальная, і міграцыя насельніцтва з вёскі ў горад таксама набыла глабальны характар.

За пасляваенны перыяд да канца сямідзесятых гадоў з вёскі ў горад у нашай краіне перасялілася звыш 60 мільёнаў чалавек. Некалькі дзяржаў!

І цяпер у прамысловасці і будаўніцтве не хапае каля чатырох мільёнаў чалавек. Патрэба ў рабочай сіле ў прамысловасці была і застаецца той помпай, якая перапампоўвае самых кваліфікаваных, самых працаздольных людзей вёскі, самых культурных і, як правільна піша Алексіевіч, «больш за ўсё патрэбных вёсцы». Можна ўявіць, якой велізарнай, касмічнай сілы гэта помпа! І ніякая чарадзейная палачка, якая б цудам трапіла ў нашы рукі, не спыніла б гэтага каласальнага патоку людзей...

Гістарычна пацвярджаецца, што патрэбы горада, і не толькі ў рабочай сіле, грамадства ў цяжкія часы задавальняе, не лічачыся з цаной і стратамі. Што было б, каб пры ваенным камунізме вёска не дала гораду хлеба дарма? Рэвалюцыя не ўстаяла б. Значыць, палітыка ваеннага камунізму была правільнай. Апраўдана гістарычна і пасляваенная міграцыя. Гэта нельга лічыць памылкай. Памылка была ў другім: прамысловыя і будаўнічыя ведамствы не імкнуліся да механізацыі вытворчых працэсаў на фабрыках і заводах, ішлі больш спакойным і лёгкім шляхам — абыходзіліся дадатковым наборам рабочай сілы. Балазе, як ім здавалася, крыніца гэтай сілы невычэрпная. А сёння мы ўжо бачым голае дно гіганцкага рэзервуара вясковай рабочай сілы. Ішлі лягчэйшым, бестурботным шляхам. І як вынік — сёння яшчэ ў многіх відах прамысловасці да 50 працэнтаў работ выконваецца ўручную, а на многіх прадпрыемствах і больш. Напрыклад, на вагонабудаўнічым заводзе імя Калініна ў горадзе Калініне ручныя работы складаюць 50 працэнтаў, а ў зборачных цэхах — 90—94 працэнты! («Правда», нумар за 22.X.86).

Міграцыя ў нас вострая і шматгранная з'ява. Яна ўсугубілася тым, што ў гаспадарчых кіраўнікоў не было патрэбнай руплівасці ў абнаўленні і ўдасканаленні вытворчых фондаў на працягу дзесяцігоддзяў. Адной з прычын гэтай небяспечнай бестурботнасці было тое, што «ў кадравым корпусе даволі моцна праявіліся застойныя з'явы» (матэрыялы студзеньскага Пленума ЦК КПСС). На высокіх пасадах многіх ведамстваў часта былі людзі сямідзесяцігадовага ўзросту. Кіраўнікі старэлі, адставалі ад тэхнічнага прагрэсу — старэлі, адставалі ад сучаснага ўзроўню развіцця тэхнікі і вытворчыя фонды. Разам з гэтым ішло экстэнсіўнае развіццё прамысловасці, колькасць прамысловых прадпрыемстваў расла, расла і патрэбнасць у рабочай сіле. Да гэтага трэба дадаць яшчэ занядбанасць сельскай гаспадаркі, вёскі.

У 12-й пяцігодцы механізацыя, аўтаматызацыя, укараненне робататэхнікі вядуцца паскоранымі тэмпамі. Але міграцыя спыніцца, праўдзівей сказаць, максімальна зменшыцца тады, калі поўнасцю будзе механізавана праца ў прамысловасці і ў сельскай гаспадарцы і на гэтай аснове складзецца ўстойлівы баланс рабочай сілы там і там. Вядома, сёння вёсцы ў перацяжкі з горадам выйграць не ўдасца, але спаборнічаць трэба, каб хоць у нейкай меры затрымаць моладзь у сельскай гаспадарцы. Трэба рабіць тое, што можна, без чарадзейнай палачкі. Выраўняць умовы працы ў сельскай гаспадарцы з гарадскімі: увесці *васьмігадзінны* рабочы дзень, напачатку абавязковы адзін выхадны дзень на тыдзень, стварыць гігіенічныя ўмовы працы для ўсіх прафіляў: на трактары, на камбайне, на фермах і г. д. Усё гэта ўжо робіцца, але вельмі марудна.

Для затрымання моладзі ў вёсцы вялікае значэнне мае выхаваўчая работа. На жаль, яна амаль не вядзецца. Пачынацца яна павінна ў школе, з першых класаў. Вялікія надзеі ў гэтым плане ўскладаюцца на рэформу сярэдняй школы, аднак змен у сістэме і метадах навучання і асабліва выхавання яшчэ няма. Сучасныя кіраўнікі педагагічных інстытутаў, прафесура ў большасці стаяць на старых пазіцыях. Прыхільнікі новых метадаў выкладання і выхавання ў сярэдняй школе ў меншасці, ім цяжка адстаяць свае ідэі.

Але і школа, нават пры ідэальнай пастаноўцы выхаваўчай працы, не зможа даць краіне адукаваных, культурных, інтэлігентных грамадзян-патрыётаў. Выхаваўчая работа павінна весціся і ў сям'і, і ва ўсіх калектывах. Трэба ўзяць за правіла, каб старшыня калгаса, дырэктар саўгаса, сакратар парткома, настаўнікі, спецыялісты бывалі ў сем'ях калгаснікаў і рабочых — і не фармальна, не афіцыйна

Вольга Баледа, якая збіралася ў горад, засталася ў калгасе працаваць даяркай толькі таму, што да іх у хату прыйшоў старшыня калгаса; неадкладна трэба было знайсці даярку. Вольга не думала і не хацела брацца за даільны апарат. На прапанову старшыні *яна адказала плачам*. Але ён і Вольчына маці ўгаварылі яе пайсці на ферму. З часам яна так палюбіла сваю работу, што ні на якую іншую мяняць не хоча. Міжвольна ўзнікае пытанне: чаму наведванне калгасных сем'яў кіраўнікамі, не толькі калгаснымі, сельсавецкімі, але і раённымі, не прымае формы грамадскай выхаваўчай работы?

Некалі ў Рыме давялося бачыць такую карціну. Ля школы стаяла вялікая група манахаў. Нас зацікавіла, чаму манахі сабраліся тут? Наш гід прапанавала крыху пачакаць, і ўсё стане ясна. Са школы высыпалі вучні. Манахі разабралі вучняў па пяць-шэсць чалавек. Кожны манах браў купку дзяцей, якія жывуць у адным доме або ў суседніх дамах і праводзіў іх дадому, пра штосьці ажыўлена гамонячы з імі. Вось вам індывідуальнае выхаванне.

У нас выхаваўчую работу заеў бюракратызм і фармалізм. Мы вось толькі што абвінавацілі старшынь калгасаў у тым, што яны не бываюць у сем'ях калгаснікаў. Але ў сучасны момант старшыні не да гэтага. Яму проста не хапае часу на наведванне калгаснікаў. Ён у вечным руху. То едзь на тыдзень два-тры разы на розныя нарады па розных *пытаннях* — ад ходу пасяўной да

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**



●

Ты — памаўчы.
Хачу я зразумець
Тваёй душы жыццёвую паклажу
Без слоў тваіх,
як разумеюць смерць,
Хоць нам і слова мёртвыя не скажуць.

Ты памаўчы,
як лес пасля дажджоў,
Як сам у ім пад мокраю лясінай...
Ты — памаўчы,
каб выказаць душой
Усё, што словам выказаць не ў сілах.

Задумайся над словамі спярша,
Як смагу іх спатоліш грамавую...
Ты — памаўчы...
Няхай вядзе душа
Сваю гаворку з вечнасцю нямую...

●

Не раз «деревнею» і «лаптем»
Смяшылі ў душных гарадах...
За ўсё, за ўсё яшчэ заплацім
Душой, з якою не ў ладах!

А сёння, вось, і ў роднай вёсцы
З радзімай мовай нелады.
І ёй ужо не маю моцы
Я дагукацца маладых.

Загавару. Пайду на споведзь,
А ўслед пачую дзіўны зык:
«Ишь, образованный какой ведь!
Как изучил родной язык!»

Не ад былой баліць насмешкі —
Ад гэтай дзікай пахвалы.
Ў адну дарогу звесці сцежкі,
Ў вялікі свет — скрозь свет малы!

О, мова!
Ўсе, як Магеланы,
К табе мы вернемся наўпрост,
Каб ты знайсці дапамагла нам
І ДОМ,
і МАЦІ,
і ПАГОСТ.

### *Вясновыя метамарфозы*

...А ранак, быццам бы падранак,
Туманам выслязіў траву,
І промнем сонца ўспоўз на ганак,
Нябёс адкрыўшы сіняву.

І рашчыніла маці хлеб.
Прыбраўшы даўкі, даўні з крамы.
Былое ўсё мы помнім лепш,
І не харомы славім — храмы
Душы,
дзе чысціцца жыццё...
І ўжо з акна двайныя рамы,
Як з вока шорхлае асцё,
Вымае бацька,
і на плямы
Плюе, сцірае брудны след,
І не прыкрыўшы ўнуку попу,
Нібыта Пётр — акно ў Еўропу,
Акно раскрыльвае ў сусвет...

Чуваць птушынае ў садах
І вулей школьнай перамены...
А ты гугніш: «Ніякай змены...»
Зачаты ў злобе і ў слязах.

Душу сваю машною сцяў.
Зашкліўся шыбамі двайнымі.
Твой храм — пусты.
Дарма званілі
Ў яго званы вятры жыцця.

Мне б адвярнуцца і забыць,
Што ты ганебна там канаеш,
Але душа — наскрозь баліць —
Нібы падказвае: чакаеш,

Што, бескарысны, я прыйду
З дабром і гнеўнаю кувалдай
Раструшчу ўшчэнт тваю бяду.
Душу ўратую...
Чыстай праўдай
Цябе пад сонцам ахрышчу,
Тварыць людское навучу...

Мы новы храм збудуем — эх-х!
Удвух адзін замолім грэх
Прад гэтай яснасцю вясны,
Дзе явы зблытаны і сны.

### *А заўтра...*

Шапне чынуша, сам як ёсць халоп:
«На трон — сягоння.
Заўтра хоць патоп...»
Гурман згугніць, глытаючы ўзахлёб:
«Зжую, што ёсць.
А заўтра— хоць патоп...»
Пустэльнік буркне — не паморшчыць
лоб:
«Дажыць бы дзень...
А заўтра — хоць патоп...»
Не скажа цесля з-пад смалістых строп!
«Збудую дом,
а заўтра хоць патоп...»
Не скажа сейбіт, сонечны, як сноп:
«Засею поле.
Заўтра — хоць патоп...»
Не скажа жонка з роду пенелоп:
«Без мук радзіць бы...
Заўтра — хоць патоп...»

— Каму ў няшчасці, божа, давяраць?
— Падобных Ною трэба ратаваць.

### *Маскоўскі госць*

Тры дні як бацька роздых даў касе.
Мы сена сушым. Думай абрастаем.
Атавы пах і поту пакрысе
Па поплаве шырокім растрасаем...

І ў гэты час прыехаў да мяне
Паэт маскоўскі родам з Магілёва.
Ах, аб'явіўся б ён крыху раней —
Зялёнае з ім выкасілі б слова!

Забыў бы ён арбацкі праменад!
Павыветрылі б дух яго і цела!
А вечарам — якраз бы акурат —
Іванаўна к нам Муза заляцела б...

Тады б не стаў, як зараз, ён вучыць,
Папыхваючы «Вінстан» звышрублёвы:
Не так, маўляў, паэту трэба жыць,
Не гэтым турбавацца і тужыць,
Ёсць сена і без нас каму сушыць,
А хто за нас напіша нашы словы?
(Не праміную Ахматавай злоўжыць).

...Пад вечар ён скусіўся памагчы.
Усё лягчэй. Пакуль раса не ўпала.
Ён граблямі ірве, скубе — маўчыць...
Няма ў яго мужыцкага запалу.

Не ўмее граблі — смех сказаць —
трымаць.
Глядзіш, на вузел і завяжа рукі!

## ПРОЗА

**Іван НАВУМЕНКА**



# Сустрэча ля мора

*Прапаную чытачам «Літаратуры і мастацтва» ўрывак з новага рамана «Асеннія мелодыі», які будзе надрукаваны ў чэрвеньскім нумары часопіса «Полымя».*

*Пішу пра інтэлігенцыю. У дадзеным выпадку пра навуковых работнікаў. Бачу ў гэтым, здаецца, не асабліва кранутым увагай нашай беларускай літаратуры асяроддзі мноства прывабных для пісьменніка пытанняў: маральных, этычных, ідэалагічных і, калі можна сказаць так, проста чалавечых.* АЎТАР.

НА ТРЭЦІ дзень знаходжання ў санаторыі Андрушкевіч спатыкае Яна Мітуся, калегу і таварыша па універсітэту. Мітусь — сярэдняга росту, чарнявы, шчуплы. У адрозненне ад марудлівага Андрушкевіча рухавы і шустры, як яшчарка. Бацька, дзед Мітуся былі дробныя шляхцюкі — не мелі ні гаспадаркі, ні адукацыі—але нейкія прывычкі ён ад іх пераняў: надзвычай ахайна, шчыгульна апранаецца і наогул уважліва сочыць за знешнасцю.

Мітусь, як і яго жонка Сцепаніда Тарасаўна — вышэйшая за мужа і значна мажнейшая — моваведы. Ён займаецца гісторыяй мовы, жонка—дыялекталогіяй. Гэта не перашкаджае ім пад прозвішчамі Я. Ф. Мітусь (Ян Францавіч) і С. Т. Мітусь сумесна выдаваць і перавыдаваць падручнікі, дапаможнікі, проста кнігі, прысвечаныя самым розным пытанням мовазнаўства.

Андрушкевіч, убачыўшы таварыша, радуецца. Хоць і нейкі неспакой адчувае. Ён чакае Ірыну, спадзяецца, што яна завітае да яго ў пакой, і нізавошта не скажа пра гэта таварышу. Ян Францавіч яго проста не зразумее.

— Расцеш пераважна ўшыркі,—аглядваючы калегу, трохі насмешліва прамаўляе Мітусь.—Гвардзеец. Жывот вялікі, а вусоў няма.

— Гвардыя спісана, брат, у абоз. Нават ваенны білет адабралі.

Мітусь займаецца старажытнымі славянамі, і Андрушкевіч займаецца. Хоць калегі вывучаюць прадмет як бы з розных бакоў. Але пунктаў сутыкнення многа. Гэта ў нядаўнім мінулым нарадзіла такую іх блізкасць, якую нават цяжка ўявіць у мітуслівым гарадскім жыцці. Штодзень Андрушкевіч і Мітусь вандравалі адзін да другога, прыносілі фотакопіі артыкулаў, старых, рэдкіх і новых, навейшых кніг, якія цяжка дастаць і ў якіх ёсць хоць кропля новага пра старажытных славян.

З'яднала іх аднак не толькі гісторыя, а і любоў да прыроды, бясконцыя вандроўкі ў лес. Эх, лес, лес!.. Вялікую вагу займае ён у жыцці Андрушкевіча і Мітуся таксама. Можа, таму, што абодва яны нарадзіліся, выраслі ў малых, ціхіх гарадках, з цяжкасцю прывыкалі да Мінска, які недзе з канца пяцідзесятых гадоў імкліва разварочваўся як індустрыяльны гігант.

Абмяркоўваючы кожную новую кнігу, артыкул, прысвечаныя старажытным славянам, ці народам, з якімі славяне сутыкаліся за гісторыю—готам, гунам, фракійцам, татара-манголам,—Мітусь і Андрушкевіч, бадай, ніштавата вывучалі прылеглыя да горада лясы—заслаўскія, слуцкія, лагойскія. Тым болей, што Заслаўе, Слуцк, Лагойск не ў такім далёкім мінулым былі гарады знакамітыя.

Апошнія гады дружба Андрушкевіча з Мітусем паслабела. Цяжка адшукаць прычыну. Можа, у тым справа, што Андрушкевіч зрабіўся доктарам, прафесарам. Мітусь жа, як быў, так і застаўся дацэнтам. Можа, працсей усё: з таго часу, як на Ленінскім праспекце вырас новы, у сучасным стылі гмах універсітэта, гісторыкі і філолагі праводзяць заняткі ў розных будынках. Між сабой не сутыкаюцца. Гісторыкі амаль не вывучаюць філалагічныя навукі, філолагі—гістарычнай.

Андрушкевіч пытае:

— Ты Дзюмезіля чытаў? Пра вярхоўных багоў індаеўрапейцаў. Кніга ў Парыжы выйшла. Яшчэ не перакладзена.

— У цябе ёсць? — Ян Францавіч загараецца.

— Ёсць..

— Што там новага?

— Дзюмезіль даказвае, што, ідучы ў Азію, Індыю, частка індаеўрапейцаў збілася з тропу і павярнула на Блізкі Усход. Дык вось табе: імёны біблейскіх багоў, нават назва Іерусаліма, тлумачацца індаеўрапейскай мовай.

— Братка ты мой!—Мітусь прыходзіць у незвычайнае захапленне. — Гэта ж сапраўднае адкрыццё. Закон Архімеда. Ты гэтай кнігі з сабой не прывёз?

— Не прывёз...

Калі Мітусь узрушваецца, узбуджаецца, то гаворка надоўга. Ён тады аж кіпіць: крычыць, размахвае рукамі, прыцягваючы да сябе ўвагу тых, хто праходзіць міма. Трэба супакоіць Мітуся, і Андрушкевіч робіць дыпламатычны ход.

— Ты са Сцепанідай Тарасаўнай прыехаў?

Твар Мітуся хмурнее.

— Занядужыла Сцепаніда Тарасаўна. Дыябет. Кажуць, ён не вылечваецца.

— Ад дыябету не паміраюць,—супакойвае таварыша Андрушкевіч.—Добра, што сустрэліся. Паходзім, пагаворым...

Андрушкевіч нібы ўвачавідкі бачыць Сцепаніду Тарасаўну, буйнацелую, суровую з твару, уладную па характары, якую нязменна прывозіць на Прыбалтыку Мітусь. Ён нават трохі зайздросціць таварышу, у якога такое добрае, грунтоўнае сямейнае жыццё.

— Пагаворым,—Мітусь весялее.—Пайду на пошту. Пазваню дадому. Калі не ўдасца, то хоць тэлеграму пашлю...

Апошні раз Андрушкевіч меў з Мітусем болей-меней працяглую гаворку ў Кішынёве, на канферэнцыі, прысвечанай кімерыйцам, фракійцам і дакам. Мінуў з той сустрэчы год, і за гэты час Ян Францавіч таксама пакруглеў і патаўсцеў, а лысіна на яго круглай, як гарбуз, галаве яшчэ больш пашырыла абсягі, цалкам зліўшыся з высокім пакатым ілбом. Узрост бярэ сваё. Мітусю таксама пераваділа за пяцьдзесят.

Андрушкевіч рад сустрэчы. Мітусь весялун, умее іграць на акардэоне, спяваць пад гітару, пры выпадку можа чарку кульнуць. Той, хто не ведае Мітуся, можа прыняць яго за звычайнага гуляку, які найбольш любіць выпіўку, танцы, іншыя жыццёвыя ўцехі. Але гэта далёка не так...

Андрушкевіч думае пра тое, што адзін Мітусь вялікай небяспекі не ўяўляе. Калі б калега прыехаў з жонкай, прыйшлося б хадзіць да іх у госці, ездзіць у рыжскія тэатры, і наўрад ці схавалася б ад праніклівага вока Сцепаніды Тарасаўны захапленне Андрушкевіча чужой маладой жанчынай...

Так, сапраўды, нічога кепскага не здарылася. Ірына прыедзе праз тры ці праз чатыры дні. Кватэра яе гаспадыні далёка—праз пяць прыпынкаў электрычкі ад ягонай станцыі. Ніхто з тых, хто адпачывае ў тутэйшым санаторыі, туды не забрыдае.

Вядома, у Андрушкевіча ёсць намер запрасіць Ірыну да сябе. Яны дамовіліся, што яна прыйдзе да яго, як толькі прыедзе. Не будзе бяды, калі Мітусь нават убачыць Ірыну. Да мужчын, якія адпачываюць у санаторыі, часта прыходзяць чужыя жанчыны.

Назаўтра Мітусь з Андрушкевічам кіруюць у Рыгу.

Лета ў разгары. Міма чыгункі цягнецца рака, не вельмі шырокая, у нізкіх берагах, мільгаюць сасоннікі, бярозавыя пералескі, у прамежках між лесам поле, на якім палавее жыта, каласіцца ячмень, пшаніца, буяе ўсялякая зеляніна. Малюнкі звычайныя, будзённыя, але яны да болю кранаюць сэрца.

Андрушкевіч думае пра Клінск, пра таварышаў, якіх нядаўна пабачыў, пра блакнот ваеннага журналіста, які ён час ад часу гартае.

— Часта бываеш дома? — як бы ўгадваючы думкі Андрушкевіча, пытае Мітусь.—На сваім Палессі?

— Рэдка. Хоць мог бы часцей ездзіць. У маці асобная кватэра. Жыве

Злуецца бацька: «Ў бога вашу маць...
Над вершамі такой бы вам дакукі!»

...Зубоў дубовых апрастаўся рад...
І бацька зноў падумаў, пэўна, гэтак:
Што, як і я, маскоўскі мой сабрат —
Не гаспадар зямны, а тэарэтык.

Што дзесьці ў белакаменнай Маскве,
Дзе столькі разнароднага народу,
І гэты вось паэт няўзнак жыве,
Пяе пра род, радзіму і прыроду...

Развіталіся ўранні малаком,
І плакалі з няведамай прычыны...
А бацька сена варушыў цішком
І з нашых слёз смяяліся жанчыны.

## Край...

Бацька купіў мне веласіпед.
Было мне гадоў з дзесятак.
Клінам на ім сыходзіўся свет —
І бацька наскроб дзесятак.

Новы!
Чырвоны!
Веласіпед!
Срэбна-бліскучыя спіцы!
«Можна заехаць на самы край-свет,
Калі са шляху не збіцца.
Выб'ешся з сілы і тут ён — край...
Дзівуйся дзіву — раскажаш.
З горак — вучылі — не налягай,
А то — пад гарою зляжаш...»

Шпарка ганяў я веласіпед.
Нагамі прырос к педалям.
Падаў знямогла:
гэта — край-свет?
За вёскай адразу ці далей?

Плакаў начамі. Смылелі бакі.
А мроі грызлі адчайней:
Ну, чалавекі!
Ну, дзівакі!
Край-свету — ён незвычайней!

Сёння я слёзна смяюся з сябе.
Не раз абышоў бы планету.
Ці памудрэў я, ці паслабеў?
Шкада, не пабачыў край-свету.

Б'юцца пачуцці мае ва ўнісон
З думкай пра мару-абразу...
Сніцца начамі дзівосны мне сон:
Край-свету!
За вёскай адразу...

●

Як прагнуў я кампаній,
Так прагну адзіноты.
Мяне за грош куплялі —
За два збывалі потым.

Хачу зблізку глянуць
На свой абсяг Айчыны.
Уздыхнуць...
І з жалем кануць
Душой за аблачыны...

І плыць бязмоўна, ціха
Над мілым родным краем —
Над раненай лясіхай,
Над чорнай воўчай зграяй,
Над жоўтым жытнім полем,
Над сушаю балоцін...
Далей, далей ад болю!
Далей, далей ад плоці!

І з той высокай далі
Быламу адгукнуцца,
Туды, дзе не чакалі,
Абноўленым вярнуцца.

І прагнуць зноў кампаній,
Як прагнуў адзіноты,
З адказам на пытанні:
Адкуль?
Чаго?
І — хто ты?



ЛЮБЛЮ Я ЛЕС, АДВЕЧНЫ БОР... Фотаэцюд А. БАЙДАК.

з маёй сястрой. Сядзі, пішы...

Андрушкевіч міжволі задумваецца. Чаму ён рэдка ездзіць у Клінск? Ён любіць свой гарадок, перад яго мысленным позіркам, асабліва калі не спіцца, паўстаюць вуліцы, завулкі, разлеглая станцыя, лясы, якія акружаюць гарадок,— тыя малюнкі, якія ён запомніў, калі быў малады, і якіх цяпер фактычна няма. Між тым, бываць у Клінску яму балюча. Чаму? Можа, таму, што ў душы яшчэ не развеялася крыўда, якая пячэ з маладых гадоў. У Клінску ад яго адвярнулася Алімпіяда, нанёсшы першы ўдар яго ружовым ілюзіям. Найцяжэй, вядома, успамінаць тое, што натварылі фашысты. Па дарозе ў сасновы бор, куды любіць хадзіць Андрушкевіч, некалі быў бярозавы гаёк, вынішчаны цяпер дашчэнту. У тым гайку фашысты расстрэльвалі жыхароў гарадка, у тым ліку таварышаў Андрушкевіча.

Ягонай асабістай віны няма ў гэтым, але яму цяжка, вельмі цяжка праходзіць міма агароджанай невысокім парканчыкам, з някідкім каменным абеліскам магілы...

І яшчэ вярэдзяць душу пасляваенныя справы. Тое, як доўгі час абыходзіліся з падпольшчыкамі...

Мітусь між тым пахваляецца:

— Я часта езджу ў Агароднікі. Кожнага тыдня. Сяду ў «Жыгулі», трохі пасвішча вецер у вушах—і дома. Чытаю, пішу...

Шчаслівы чалавек Мітусь. Абмінуў яго той вір, які гэтак адчайна, балюча круціў Андрушкевіча.

— У гарадку дом твайго бацькі?

— Мы былі бедныя. Вандравалі па чужых кватэрах. Свайго дома не мелі. Гэта я ў цешчын дом езджу. Яна завяшчала яго нам. Дамок мураваны. Рэчка блізка. Вада чорная, тарфяная, цёплая...

— Прызнайся, Ян Францавіч,—нечакана пытае Андрушкевіч, — калі ты закахаўся ў Сцепаніду Тарасаўну?

— Тут няма ніякай тайны. У восьмым класе.

— Ажаніўся з ёй, і ніякія другія жанчыны цябе не вабяць?

— Не вабяць.

— Цяпер слухай, шчаслівы чалавек. Жонку ты любіш, прыязджаючы ў гарадок, яднаешся з тым, што любіў з дзяцінства. Са знаёмымі вуліцамі, дамамі, лесам, полем. Галоўнае — з людзьмі, якіх памятаеш. Поўная гармонія. Тым часам гармонія—ураўнаважанасць супярэчнасцей. Калі хочаш—застыгласць. У цябе ўсё ёсць. Пагэтаму ты нічога не хочаш. Не раздвойваешся, не пакутуеш...

Твар Мітуся хмурнее.

— Ты д'ябал. Прыгнятаеш, давіш мяне. Таму я ад цябе ўцёк. Сам думаў пра гэта. Толькі ты *памыляешся*. Пакутую я, брат, страшэнна. Ад таго, што пішаш, пішаш і ніхто тваёй работы не заўважае...

Андрушкевіч змаўкае. Мітусь гаворыць якраз тое, што ў яго самога набалела. Нягледзячы на самаахвярнасць, адданасць кнігам, навуковым вышукам, штодзённай пісаніне, завоблачных вышынь Андрушкевіч таксама не дасягнуў. Радавы доктар навук, якога, акрамя студэнтаў гістфака, мала хто ведае. То ці варта гэтак зацінацца, быць гэтакім схімнікам? Маладосць мінула даўно, і што асабліва ён бачыў? Пакутаваў, раўнаваў *жонку. Невядома яшчэ, хто каму* сапсаваў жыццё? Яму жонка ці наадварот?..

— Скажу табе вось што, — сумна працягвае Андрушкевіч. — Мы не эстрадныя спевакі, не славутыя пісьменнікі, у якіх бяруць аўтографы. Мы як земляробы. Тыя, што выконваюць *свой штодзённы* абавязак, кормяць нас хлебам, і ніхто іх за гэта асабліва не хваліць. Вось так трэба жыць. Падкідваць дровы ў цяпельца навукі. Каб яно не пагасла...

— Так то яно так. Але калі якаянебудзь бяздарнасць кіруе разумным чалавекам, нават топча яго, то запяеш Лазара...

— Трэба трымацца.

— Вядома, трэба. Тым часам усе мы хібім. Падсвістваем тым, хто над намі. Ты таксама не анёл. Пачынаў з навукі, споўз у кан'юнктуру...

Андрушкевіч не крыўдуе.

— Так здарылася, брат. Ведаеш сам: да аспірантуры я працаваў завучам. Меў добры заробак. Вось чаму схібіў. Час жаніцца, заводзіць сям'ю. Дысертацыяй аднак не пахне. Што мог я тады напісаць пра старажытных славян? Нічога. Значыць, ні зарплаты, ні кватэры. Пакінуў да часу славян. Ты не быў на вайне, не разумееш. Тое, што я пісаў, было мне таксама блізка. Я вайну прайшоў, бачыў, як пасля вайны падымаліся вынішчаныя вёскі, гарады, самую вайну бачыў...

— Я люблю тваю кнігу пра аднаўленне. І пра першую пяцігодку. Толькі працяг трэба. Напішы пра другую пяцігодку, пачатак вайны...

— На ўсё свой час. Цяжка, брат, гісторыкам, якія ў сутык ідуць за падзеямі. Босыя на вогнішчы. Магу пахваліцца. Кнігу пра старажытных славян нарэшце закончыў. Здаў у друк. Праз дваццаць пяць гадоў пасля таго, як пачаў пісаць...

Мітусь аж прысвіствае. Захоплена глядзіць на Андрушкевіча.

— Герой. Нездарма люблю цябе. Скажы: пра тое, што гаварылі з табой, ходзячы па лесе, напісаў?

— Напісаў. Кніга называецца «Славяне на Дняпры і Прыпяці». Але перш, чым гаварыць пра славян, напісаў, што ведаю пра ранніх індаеўрапейцаў, скіфаў, готаў... Пра тое, што ты мне падказаў. Кніга мае невялічкую прадмову. У ёй падзяка некаторым асобам. Табе, у прыватнасці, таксама...

— Дзякую,—Мітусь, як заўсёды, прыходзіць у захапленне.

У вокнах пачынаюць мільгаць высозныя закопчаныя трубы, цагляныя сцены заводаў, заводзікаў, двары, шчыльна застаўленыя бульдозерамі, скрэперамі, аўтамабілямі, трактарамі, вялізнымі драўлянымі коламі з намотанымі на іх рознай таўшчыні ніткамі кабелю. Дымы розных гатункаў падымаюцца ўверх, у сіняе бязвоблачнае неба.

Нарэшце электрычка, прыкметна прыцішыўшы ход, імчыць па жалезным мосце праз шырокую Даўгаву. На рацэ, асабліва ля берагоў, мноства параходаў, параходзікаў, катэраў, баржаў. Ужо відаць старажытныя вежы, плошчы, вузкія вулкі старой Рыгі.

На вакзале Андрушкевіч з Мітусем развітваюцца. Мітусь мае ад Сцепаніды Тарасаўны шэраг заданняў і адразу кіруе ў прылеглыя да станцыі вуліцы, дзе размешчаны магазіны.

Андрушкевіч такіх заданняў не мае, будзе вандраваць па кнігарнях.

Ён любіць Рыгу. Ёсць у ёй чужое, нямецкае, што нібы прынёс у горад каталіцкі біскуп Альбрэхт Мядзведзь, які болей як сем стагоддзяў назад заклаў на нізкіх балотных берагах Балтыкі горад. Але свайго, блізкага ў Рызе, бадай, болей, чым чужога. У малюнку вуліц, будынкаў, у самой душы горада. Бо балты бліжэй да славян, чым да якіх-небудзь іншых плямён.

Вось праз такія акуляры Андрушкевіч глядзіць цяпер на гарады, паселішчы, наогул на ўвесь белы свет. Нічога не напішаш—гісторык. Прафесія, як флюс, выпірае ў адзін бок.

Андрушкевіч кіруе ў букіністычны магазін, дзе купляюцца і прадаюцца старыя кнігі на замежных мовах. Рыга—асаблівы горад, тут часам натрапіш на кнігу, якую ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве не знойдзеш.

Горача ў Рызе, дымна. Асфальт вуліц нібы расплавіўся пад летнім сонцам. Нягледзячы на багатую зеляніну паркаў, сквераў, цяжка дыхаць.

Букіністычны магазінчык у невялікім, напаўцёмным паўпадвальчыку. Тут таксама горача, млосна. Людзей аднак многа. Выстаяўшы чаргу, як да гаючай крыніцы прыпадае Андрушкевіч да невялікай паліцы, на якой стаяць нямецкія, англійскія, французскія, польскія кнігі па гісторыі. Ён прадчуваў удачу, і прадчуванне не падвяло: натыкаецца на нямецкую кнігу, выдадзеную ў Дрэздэне ў пачатку мінулага стагоддзя і прысвечаную славяна-гоцкім адносінам.

*Нечаканая* радасць *як бы* робіць Андрушкевіча сляпым. Натрапляе на томік Герадота на нямецкай мове, на такі самы, які ён чытаў. Толькі ў новым, незнаёмым пераплёце.

Гарачыня, доўгае стаянне ў падвальчыку робяць сваё. У Андрушкевіча пачынае адчайна тахкаць сэрца. *Ён проста палохаецца.* Няўжо вярнулася арытмія, якую ён, здаецца, вылечыў яшчэ паўгода назад? Адклаўшы ўбок томік Герадота, Андрушкевіч паспешліва плаціць за кнігу пра славяна-гоцкія адносіны, паспешліва выскоквае з поўнага парнай, вільготнай задухі падвальчыка. Ён блукае, хаваецца ад гарачыні па зацененым баку вуліцы, потым шукае цень ў парку, пад засенню дрэў. Сэрца пакрысе супакойваецца, уваходзіць у звычайны рытм. У Андрушкевіча раптам мільгае думка, што томік Герадота, які ён трымаў у руках, той самы, што ён чытаў. Здаецца, ён нават уласныя паметкі на палях бачыў. Толькі як знаёмы Герадот трапіў у рыжскі паўпадвальчык?

Шырокая вуліца, якая прылягае да парку і ў якую нібы ўпіраецца вулка з размешчанай на ёй букіністычнай кнігарняй, аж гудзе ад патоку легкавых і грузавых машын.

Каб трапіць у кнігарню, трэба яшчэ раз перабрацца праз вуліцу. Кнігарня аднак зачынена на абед.

Абед у санаторыі скончыўся. Але на гэта Андрушкевіч не зважае. Трэба абавязкова купіць Герадота. Хоць бы дзеля таго, каб пераканацца, што гэта не той экземпляр, які ёсць у прыдадзеным кафедры кабінеце, якім загадвае Ірына.

Нарэшце букіністычны паўпадвальчык адчыняецца. Томіка Герадота на тым месцы, дзе яго пакінуў Андрушкевіч, няма. Похапкам, баючыся, што зноў пачнецца бязлюднае тахканне сэрца, шукае Андрушкевіч кнігу. Але не знаходзіць.

— Прадалі,—паведамляе Андрушкевічу чорненькая, з запалымі шчокамі прадаўшчыца.

Абед у санаторыі Андрушкевіч страціў, Герадота ўпусціў, затое купіў добрую пішучую машынку. На той жа вуліцы Падам'ю. У магазіне поўна пішучых машынак, з алфавітам, заснаваным на кірыліцы. Можа, таму, што сама Рыга друкуе паперы лацінкай...

## НАШ КАЛЯНДАР

# СУСТРЭЧЫ ПРАЗ ГАДЫ

### Да 90-годдзя з дня нараджэння мастака Анатоля ТЫЧЫНЫ

АНАТОЛЬ Тычына — ужо гісторыя... На пачатку 20-х гадоў ён выкладаў маляванне ў мінскіх школах, афармляў кнігі ў Белдзяржвыдзе, удзельнічаў у мастацкіх выстаўках станковымі творамі, экслібрысамі, працаваў як афарміцель. Мне ж пашчасціла пазнаёміцца з мастаком у 1930 годзе. Ён умеў паважаць і сталага майстра, і пачаткоўца. Тычына валодаў магутным тэмпераментам, творчай воляй, яркай індывідуальнасцю. Не помню аніводнай сустрэчы, калі б Тычына не быў захоплены марамі пра новыя работы.

Яшчэ студэнтам Віцебскага мастацкага тэхнікума мне пашчасціла ўдзельнічаць у афармленні Першай Усебеларускай сельскагаспадарчай выстаўкі. Вось тут і адбылася сустрэча з Тычынам. Ён уразіў падцягнутасцю, унутранай сабранасцю, добразычлівасцю, якую выпраменьвалі з-пад шкельцаў пенснэ вясёлыя, уважлівыя да субяседніка вочы. (Вось гэткі ж ён быў у любым узросце)... У той жа дзень мяне накіравалі ў брыгаду афарміцеляў павільёна друку — пад кіраўніцтвам Л. Ю. Кроля (аднафамільца, не сваяка!..). Там я і працаваў ажно да адкрыцця выстаўкі, час ад часу сустракаючыся і з Тычынам.

Потым я еустрэўся з Анатолем Мікалаевічам праз два гады. Пасля заканчэння Віцебскага мастацкага я быў накіраваны ў Белдзяржвыд — у аддзел мастацкага афармлення кнігі. Там працавалі Тычына, Філіпоўскі, Ліўшыц, Дзясніцкі і іншыя. А ў калектыве быў добры «клімат» дзякуючы ўвазе Анатоля Мікалаевіча да творчай моладзі. Менавіта ён пазнаёміў мяне з многімі мастакамі. А колькі яго каштоўных парад мелі для мяне на першых кроках неацэннае значэнне! Але парады Тычына ўмеў даваць так, што здавалася, быццам думка гэтая нарадзілася ў тваёй галаве. Ён умеў пераконваць, выказваючы заўвагі. Умеў слухаць — якасць, скажам шчыра, не такая ўжо частая сярод нашага брата-мастака. Да Анатоля Мікалаевіча цягнуліся людзі самага рознага ўзросту. А як радаваўся ён, калі ў 1933 г. па выдавецтве двое мастакоў былі ўзнагароджаны прэміямі: «пазаштатны» —Анатоль Тычына, а «штатны» — я ўласнаю персонаю. Гэта была і нечаканасць, і найвялікшая радасць, бо прэміравалі на 15 дзён у Маскву і Ленінград для азнаямлення з выдавецкай справай і музеямі. Памятаю сваё захапленне ад музеяў, уражанні ад выстаўкі савецкай графікі за 15 гадоў, ад знаёмства са сталічнымі майстрамі. І многае ў тагачасных уражаннях было ўзбагачана, бо Тычына шчыра дзяліўся і ведамі, і меркаваннямі з нагоды толькі што ўбачанага, перажытага.

Праз нейкі час пашчасціла і творча супрацоўнічаць з Тычынам. У 1936 годзе ў кааператыў мастакоў паступіў заказ на эскізы габеленаў, якія павінны былі вышываць самадзейныя майстрыхі. Габелены прызначаліся для нарады чыгуначнікаў у Маскве як падарунак ад беларускіх калег. Тычына распрацоўваў у сваім эскізе спартыўную тэму, а я — тэму ўдзелу чыгуначнікаў у ахове граніцы. Мы мусілі і стварыць эскізы, і кансультаваць майстрых. Такую работу даводзілася выконваць упершыню. Мяне дзівіла вынаходлівасць Тычыны і густ, калі разам з вышывальшчыцамі ён падбіраў ніткі па колеры і тону. Для мяне гэта былі каштоўныя ўрокі.

Працавалі мы з ім і над афармленнем выстаўкі дасягненняў Савецкай Беларусі да 20-годдзя Вялікага Кастрычніка, якая адбылася ў Доме ўрада (1937). Нам даручылі аформіць аддзелы сувязі і камунальнай гаспадаркі. У нас ніколі не ўзнікалі спрэчкі, бо Тычына ўмеў улічваць кожную агульную знаходку, вырашаць супярэчнасці, кіруючыся інтарэсамі справы. І ўмеў арганізаваць працу. А гэта было важна, бо ў кожнага з нас былі і іншыя абавязкі — Тычына займаўся мастацкім афармленнем гістарычнага музея БССР, а мяне запрасілі афармляць музей рэвалюцыі БССР.

А нашы сумесныя «пленэры»! Так, улетку 1938 года мы дамовіліся правесці адпачынак разам і прысвяціць яго выключна жывапісу. Тычына добра ведаў Беларусь і прапанаваў паехаць у вёску непадалёк ад Смалявічаў: цягніком — да станцыі Чырвоны Сцяг і яшчэ кіламетры са два пехатою. Паехалі разам з сем'ямі. Да нас далучыліся Анатоль Волкаў і Сцяпан Андруховіч — таксама з блізкімі. Гэта быў сапраўды творчы адпачынак. Пісалі пейзажы як апантаныя. Уставалі з сонцам і разыходзіліся па аблюбаваных маляўнічых кутках. Лета было навальнічнае, трывожнае — матывы прырода даравала самыя маляўнічыя! Па чарзе ездзілі ў Мінск па матэрыялы для работы, прадукты. Тычына пісаў акварэлі і гуашы, а мы ўсе працавалі алеем. Нават Анатоль Волкаў, які звычайна шмат працаваў акварэллю, загарэўся жаданнем асвоіць гэтую жывапісную тэхніку. Два месяцы ўмомант прамільгнулі. Колькі ж было назапашана эцюднага матэрыялу!

Тычыну можна было сустрэць на кожным вернісажы. Выставак тады наладжвалася многа. Часцей — у Доме мастака. На жаль, не ад усіх экспазіцый засталіся каталогі ці водгукі ў прэсе. Сёння не дзіва, што ў работах мастацтвазнаўцаў, якія пішуць пра перадваенны перыяд, сустракаюцца недакладнасці. Кажу пра гэта, каб падкрэсліць: тыя звесткі, якія захаваліся ў разнастайных матэрыялах Тычыны,— верагодныя. І гэта варта мець на ўвазе.

Нястомны падарожнік, Тычына многа працаваў у вандроўках. Яго серыя каляровых гравюр пра жыццё рачнога порта, на мой погляд, вельмі красамоўнае дасягненне мастака. Добра вядомы ягоны цыкл малюнкаў і гравюр, прысвечаных Мінску. Сярод іх ліст, прысвечаны параненаму вайною гораду — слова сведкі цяжкіх выпрабаванняў.

Пасля вайны я вярнуўся ў Мінск і сустрэўся з Тычынам. Працаздольнасць яго не зменшылася. Я прыходзіў да яго на Студэнцкую вуліцу, дзе ён жыў у доміку, абсаджаным бэзам. Колькі гэты маляўнічы дворык даў матываў для творчасці Тычыны!

Уражвала асаблівая акуратнасць у яго рабочым кабінеце. Работы былі раскладзены ў папкі па датах стварэння і тэхніцы выканання, і ён імгненна знаходзіў любы свой твор. Надзіва дакладная памяць. Змястоўнасць успамінаў. Немагчыма было не заседзецца ў яго...

Галоўны ўрок яго жыцця — пастаяннае творчае напружанне. У маёй памяці ён — заўсёды творца, чалавек і мастак, які ўмеў не губляць час. Таму і пакінуў пасля сябе адметную мастацкую спадчыну.

**А. КРОЛЬ,**
**мастак.**



Мастакі А. Кроль, А. Тычына, А. Сапетка, В. Цвірка (здымак 1947 г.).

## ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

Трывожнай старонкай у біяграфію народнага песняра Якуба Коласа ўвайшоў лёс яго сярэдняга сына Юркі, 1917 года нараджэння. У 1940 годзе ён закончыў геафак БДУ імя Леніна, быў прызваны ў Чырвоную Армію. Загінуў у суровым сорак першым недзе пад горадам Ярцавам, калі нямецка-фашысцкія захопнікі рваліся да сталіцы Радзімы. На геаграфічным факультэце БДУ адбылася літаратурная сустрэча, прысвечаная яго памяці.

Напачатку прагучалі вершы Якуба Коласа «Савецкія дні» і «Байцам і камандзірам Чырвонай Арміі» ў выкананні народнай артысткі БССР М. Захарэвіч.

Цёплым словам успомнілі Ю. Міцкевіча сябры яго маленства і юнацтва П. Грудзінскі і Б. Алесін, аднакурсніца М. Казлова, аднакурснік і аднапалчанін, дацэнт універсітэта Ф. Варонін.

Шэсць Юркавых лістоў з фронту захоўваецца ў Літаратурным музеі Якуба Коласа. Адзін з іх і палымяны зварот песняра да сына, з якім ён выступіў 28 лютага 1942 года на Усесаюзным радыё, прачытаў заслужаны артыст рэспублікі П. Дубашынскі.

З цікавасцю праслухалі студэнты выступленне старэйшага сына Якуба Коласа, заслужанага работніка культуры БССР Д. Міцкевіча.

Найпершым клопатам песняра быў спакой на зямлі. Удзельнікі сустрэчы мелі магчымасць пачуць паэтаў голас, запісаны на плёнку, — прамову на Беларускай рэспубліканскай канферэнцыі прыхільнікаў міру ў 1951 годзе.

Эпілогам з паэмы Якуба Коласа «Адплата» ў чытанні метадыста Дома самадзейнай творчасці Белсаўпрофа Л. Ксяневіча закончылася гэтая хвалюючая сустрэча.

**К. СЦЕПАНЮК.**

●

Гасцямі студэнтаў і выкладчыкаў філалагічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута былі Р. Барадулін, А. Вольскі і загадчыца рэдакцыі літаратуры народаў СССР выдавецтва «Мастацкая літаратура» Г. Шаранговіч. Яны сустрэліся з рэктарам інстытута В. Вінаградавым, наведалі літаратурны музей, экспазіцыя якога размешчана ў інстытуце.

Адбылася сустрэча з чытачамі ў кнігарні «Светач». На ёй, у прыватнасці, ішла размова аб набытках альманаха «Братэрства», аб справах выдавецтва. Вяла сустрэчу шчыры прапагандыст беларускай кнігі прадавец В. Тылец.

**Ф. СІЎКО.**

●

Больш за 200 мінчан павышаюць свае веды па мастацтве, эстэтыцы і культуры ў народным універсітэце, створаным пры Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы г. Мінска, які працуе ўжо шмат гадоў. На чарговых занятках, што ўступным словам адкрыла дэкан універсітэта С. Берына, госцем слухачоў быў часопіс «Нёман».

Што неабходна зрабіць, каб часопіс быў больш цікавым? Як узняць дзейснасць друкаванага слова? Гэтыя і іншыя пытанні закрануў галоўны рэдактар часопіса «Нёман» А. Кудравец.

Загадчык аддзела паэзіі Б. Спрынчан падзяліўся са слухачамі сваімі ўражаннямі пра Парыж, дзе ён удзельнічаў у сустрэчы з французскімі пісьменнікамі.

Затым выступілі кандыдат філалагічных навук В. Чэрнікава, выкладчыца рускай мовы і літаратуры Л. Спірына.

**С. ЛЕАНІДАВА.**

●

У Магілёўскім абласным драматычным тэатры прайшоў творчы вечар моладзі «Тэатр і музыка». У выкананні артыстаў А. Палкіна, С. Кліменка, І. Семунёвай прагучалі музычныя ўрыўкі з некалькіх спектакляў.

Удзельнікі народнай студыі вакалу Палаца культуры і тэхнікі вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» імя У. І. Леніна Н. Шарубіна, Т. Шумкова, В. Сцяпанава выканалі песні беларускіх кампазітараў. Гучалі на вечары і творы маладога кампазітара У. Браілоўскага. Сам аўтар расказаў слухачам аб сувязі тэатральнага і музычнага мастацтва, выканаў новыя творы.

**Н. ЗАХАРАВА.**

●

У Мінскім абласным бібліятэчным калектары рэгулярна праходзяць сустрэчы з пісьменнікамі, работнікамі рэспубліканскіх выдавецтваў. У час адной з іх гасцямі метадыстаў школьных бібліятэк і бібліятэкараў вобласці былі Эдзі Агняцвет і галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Анатоль Грачанікаў. Ішла зацікаўленая гаворка аб прапагандзе нашай літаратуры, новых кніг беларускіх пісьменнікаў.

У гэты ж дзень адбылася сустрэча з Лідзіяй Арабей і адказным сакратаром часопіса «Вясёлка» Тамарай Тарасавай.

**Г. ВАЛЕНІЧ.**

## ТЭАТР

### II.

ПАЧЫНАЮЧЫ размову пра ўрокі фестывалю, важна ўсведамляць творчую самастойнасць нашага тэатра. Нават цяпер, калі ён часцей засмучае, чым узрушвае, калі завяршаецца адзін з самых бяскрылых за апошні час сезонаў. Развіццё адбываецца адпаведна законам, цікавых і несправядлівых па-свойму. Працэс падпарадкоўваецца логіцы рэчаў, а не пажаданняў.

Каштоўнасць «Прыбалтыйскай тэатральнай вясны» — не ў высвятленні, дзе «горш» ці «лепш» ставяць спектаклі, у Беларусі ці Эстоніі. Фестываль, які збірае ўсё самае яркае, што ёсць у рэгіёне, дапамагае нам зразумець свой тэатр. Калі б яшчэ «паважаць прымусіў» — было б зусім цудоўна...

Фестываль дазваляе зразумець павевы тэатральнай моды — і адчуць сапраўдную сутнасць паняцця «сучаснае» ў дачыненні да мастацтва сцэны. Ён акрэслівае тэндэнцыі, дае пэўную суму творчых пралікаў і здабыткаў, прагназіруе заўтрашняе надвор'е.

ПАДАЛОСЯ, што спектаклі гасцей з Літвы, Латвіі і Эстоніі пазначаны нейкай іншай якасцю кантактаў з аўдыторыяй, вылучаліся нейкай большай свабодай у дыялогу з гледачом. Можна, вядома, дадаць — са сваёй аўдыторыяй, са сваім гледачом, але ж гасцям дапамагалі і чужыя сцэны, незнаёмую мінскую публіку яны «бралі» ўпэўнена, не зважаючы на апрыклыя навушнікі для сінхроннага перакладу.

Мабыць, гэта яшчэ адна прыкмета прафесіяналізму, якая актыўна ўплывае на сацыяльны статус тэатра. Не хацелася б абсалютызаваць становішча (напэўна, і прыбалтыйскі тэатр не вольны ад праблем, сваіх і ўсеагульных, мяркуючы нават па «кароткай лаўцы» ўдзельнікаў «Вёснаў»), толькі калектывы, якія давялося бачыць на фестывалях, думаецца, адрозніваюцца веданнем сацыякультурнай сітуацыі, мабільнасцю, рэпертуарнай учэпістасцю. Іншымі словамі, тэатр усведамляе, **што і калі** прапанаваць гледачу, тым самым захоўваючы пазіцыю ініцыятара дыялога. Эстэтыка відовішча, як паказалі фестывальныя спектаклі, адыходзіць на другі план, зводзіцца да выбару той ці іншай формы і арганічнага існавання ў ёй.

У спектаклі тэатра «Ванемуйнэ» з Тарту «Час пачатку — час развітання» навідавоку ўсе выдаткі інсцэніроўкі — ілюстрацыйнасць, схематызм, скорагаворка. Здавалася, першыя эпізоды не пакінулі аніякіх ілюзій: неўразумеласць «часу пачатку», акцёрская халоднасць, фармальнасць альбо, наадварот, густы натуралізм... Досыць прэтэнцыёзна выглядала сцэнаграфія, жывапісны заднік з выявай эстонскага краявіду, падзелены напалам чырвонай паласой, суцэльнай унізе, уверсе пункцірнай,— асучаснены дызайнерскім знакам тэатральны антыкварыят.

Неўзабаве, аднак, усе сюжэтныя лініі былі моцна закручаны, паводзіны і ўчынкі персанажаў пачалі пераконваць сваёй жыццёвасцю, а унікальныя па цяперашнім часе маштабныя масавыя сцэны набылі дасканалую завершанасць скульптурных кампазіцый. Упершыню мы ўбачылі галоўнага героя Андрэса Пааса ўпэўненым, поўным сіл чалавекам, які становіцца на гаспадарку,— развіталіся са старым, які знаходзіць суцяшэнне сабе і іншым у Кнізе Іёва і мудра прадбачыць, што зямля хутара Варгамяэ, уключанага ў няспынны кругазварот жыцця, не век будзе занядбана, дачакаецца лепшай пары. Я. Тоомінг ніводнага разу не сфальшывіў, не націснуў на характарнасць, пра-

Першая частка артыкула змешчана ў мінулым нумары.

Сяргей ГРАХОЎСКІ

# БАЛЮЧАЯ ПАМЯЦЬ



## ПАРА САПРАЎДНАЙ ПРАЎДЫ

Я, нізавошта пакараны,
Даўно прымушаны маўчаць,
Залізваю дагэтуль раны,
Што ўсё яшчэ кроватачаць.

Прыйшла пара сапраўднай
праўды,
Якой з маленства даражу.
Язык мой, колькі ж год
маўчаў ты?
Цябе я ўрэшце развяжу.

Я пасталеў занадта рана,
Быў актывіст і гаварун,
Агітаваў і быў адданы
Любому лозунгу з трыбун.

Насіў юнгштурмаўку і боты,
Лічыў сябе мудрэй за ўсіх,
Ды шальмавалі абармоты
Мяне і родзічаў маіх.

Я за пракосам клаў пракосы,
Цягаў лясіны на спіне,
А нехта ўжо страчаў даносы,
І часам усміхаўся мне.

Відаць, я замінаў нямала
Сваёю верою святой,
Ды ўдарыў гром: пара настала
Мяне прыціснуць пад пятой.

Усё здавалася трызнёю,
Кашмарным і часовым сном,
Памылкай, нечыяй віною,
І ўсё ж хлусні з'явіўся том.

Круціўся дзень і ноч канвеер,
Хоць і не верыў зрок і слых,
Што ні за што вышэйшай
мерай
Караў бяздумна свой сваіх.

Адбедаваў, і больш не плачу
Ні па сабе, ні па сябрах.
Мне лёс наканаваў удачу,
Сябры ж развеяліся ў прах.

А я дасюль у снежным шале
Усё бачу змучаных калек,
Што маладымі паміралі
На гразкіх сцежках лесасек,

Што на пагрузцы падстаўлялі
Пад шпальнік сцёртыя маслы,
Што курчыліся на павале
Пад свіст лучковае пілы.

Мае сябры, я вас паіменна
Збярог у памяці сваёй.
Я — сведка ваш, я — ваша
змена,
Мы доляй-скутыя адной.

Не знойдзе самы клапатлівы,
Дзе ваш прапаў апошні след,
Хоць толькі знікнеце тады вы,
Як я пакіну гэты свет.

Лірычных адступленняў годзе.
Пакуль відзён былога цень,
Я з клятага дзесяцігоддзя
Хачу адзін прыпомніць дзень.

Быў і тры тысячы шэсцьсоты,
За ім прайшоў паўторны круг...
А я прыпомню, як з работы
На вахту не вярнуўся друг.

Яго няма. Я з ім сябрую, —
У сэрцы ён і у вачах,
Хоць сорак тры зімы зімую
Я без таго «уцекача».

*Ганарар прашу пералічыць у Савецкі фонд міру.*
*АЎТАР.*

## УЦЯКАЧ

Я быў і дужы, і здаровы,
Худы, галодны, малады
І да знямогі рэзаў дровы
У незабыўныя гады.

Калі лучковаю пілою
Крамсаў бярозы дзень
у дзень,
Ад пайкі поснай і малое
Падобен быў на доўгі цень.

А пілаваў. Хоць без надзеі
Часамі крыж цярпліва нёс,
Каб толькі у штрафным
кандзеі*
Не завяршыўся горкі лёс.

Я ж не паспеў ні стаць на ногі,
Ні вызначыць кірунак свой,
Калі казённыя дарогі
Таптаць пагнаў мяне канвой.

І я пісаў сабе і людзям,
Бо ўсе надзеямі жылі,
Што некалі нарэшце будзе
Закон і праўда на зямлі.

А ён і не звяртаў увагі,
Што там пісаў жывы шкілет,
І пакідалі дахадзягі
З надзеяю агорклы свет.

А найвялікшы між вялікіх
Усіх народаў і вякоў
Гартаў дакладныя падлікі
Яму адданых мерцвякоў.

Калі ж вайна бядой крывавай
Ішла па нашай старане,
Нястомна я пісаў заявы,
Каб узялі на фронт мяне.

Прасіўся я ў штрафную роту
І марыў днём і уначы
Загад чакае на сябе.

Так кар'ерысты і дзялягі
Займалі цёплыя пасты,
Ад лесасекі да ГУЛАГа
Былі ўсе творцамі туфты.

Туфта туфтой, а ты ў брыгадзе
Для ўсіх папіхач і халуй:
Знясілены пад штабель
сядзеш,
А ўжо крычаць: «Фіціль,
пілуй!»

Відаць, і праўда,— дагараю,
Нібы фіціль; увесь апух,
Як ачмурэлы, пазіраю,
Пакуль зусім не выйшаў дух.

У рэйку б'юць: «Канчай
работу.
Выходзь на вахту, як адзін!»

Тады пайшла на «пільнасць»
мода,
І ўсё вышуквалі часцей
Уяўных ворагаў народа,
Іх матак, жонак і дзяцей.

На ўсіх адразу не хапала
Аховы, камер і замкоў,
Ні перасылак, ні каналаў,
Ні лагераў, ні руднікоў.

Тут «вынаходцы» ў захапленні
На ўсе крычалі галасы,
Што трэба ўзяць у ачапленне
Заводы, шахты і лясы.

Іх зверху блаславілі «шышкі».
І разгарнуліся ж яны:
Цягнулі дрот, стаўлялі вышкі
І... палучалі ардэны.

Вось у такое ачапленне,
Не знаю, па чыёй віне,
Валіць бярэзнік, драць карэнне
Зімой прыгналі і мяне.

Вядуць. Пілуй з апошняй сілы,
Пот закіпае, як рапа,
За пайку, лапці і бахілы,
І целагрэйку да пупа.

І я хадзіў вось так прыбраны,
На шэрых шчоках мох парос,
Гнаіліся на целе раны,
Ад сцюжы аблузаўся нос.

Ёсць і ў бядзе свае няшчасці:
З'ясі паёк, то — без пайка,
Бо можна з голаду прапасці,
Калі не маеш кацялка.

Хоць бы які: бляшанка
з дужкай,
Глячок, з якога пі і еш,
Калі здабудзеш лыжку
з кружкай,
Дык да вясны і дажывеш.

А што вясной? Вясна-красуня
Падсцеле цёплае травы,
Падкіне шчаўя, грыб падсуне,
З'ясі, глядзіш, — яшчэ жывы.

А ўзімку строчыць зноў заявы
І скардзіцца тутэйшы люд,
Што іх судзіць не мелі права
Ні тройка, ні закрыты суд.

Але з «яжовых рукавіцаў»,
Не вылузацца, хоць памры...
Заявы ж нашыя ў сталіцу
Ідуць да гэтае пары.

А каб дайшлі, дык хто б
заўважыў,
Сумлення хто б разгледзеў іх?
Адзін найбольш на свеце
важны
І вырашаў усё за ўсіх.

А ў нас надзеі не згасалі,
Бо верылі яму усе,
Ды аптымістаў тых спісалі
За вахту з біркай на назе.

* Штрафны ізалятар.

Пра тую страшную работу,
Дзе гінуць, каб перамагчы,

Каб у крутой віхуры бою
Усім паклёнікам назло
Мне змыць уласнаю крывёю
Віну, якое не было.

Але усе нібы аглухлі
За сценамі сівых муроў.
Надзеі светлыя патухлі
У мяне і у маіх сяброў.

Ніхто не чуў, ніхто не верыў,
І не зрабіў насустрач крок.
Наадварот, — на нашы дзверы
Другі павесілі замок.

Усё ж і мы для Перамогі,
Сіл не шкадуючы, жылі, —
Вялі сталёвыя дарогі,
Калолі тоўстыя камлі.

На шпалы і на ружбалванку,
Рудстойку адпраўлялі ў тыл,
І нават цыравалі танкі
Днём і ўначы з апошніх сіл.

Спытаецца: «Нашто кляпаеш
Пра перажытае даўно?»
Калі злачынства прыхаваеш,
Глядзіш, — узыдзе зноў яно.

Хапала веры і цярпення,
Але мне сняцца і цяпер
Развод, канвой і ачапленне,
Аўчарка дзікая, як звер.

Пілую, — чуркі, чуркі, чуркі,
Кладу паленіцаў рады,
З дзесятнікам гуляю ў жмуркі
За міску поснай баланды:

Саскроб адмеціны з паленняў,
Душу заплямілшы сваю,
Часова страціўшы сумленне,
Што здаў учора, зноў здаю.

І ўсё ж не раз бяда страчала:
Сачыў дзесятнік з-за куста,
Тады кандзей, ды выручала
Часамі і мяне туфта.

Туфта — для кожнага удача:
У зводках акругляй нулі.
І за такія справаздачы
Начальству прэміі былі.

Без круглых лічбаў не
пахваляць,
Без гучных рапартаў —
скандал,
Дзялянку без туфты не
зваляць,
Нідзе не пракладуць канал.

Туфта усім была патрэбна.
Начальства прэміі грабе,
І, быццам дыфірамб хвалебны,

Мы ж завіхаліся да поту
Амаль што тузіну гадзін.

Гараць кастры у ачапленні,
То датляваюць, то гудуць,
У мітульзе жывыя цені
На вахту з піламі брыдуць.

Палічаць там усе галовы,
Скамандуюць: «Шарэнгі
здвой!»
Калі ўсё сыдзецца, гатовы
Начальнік паздымаць канвой.

Але марудна нешта лічаць
Па тры разы ад краю ў край,
Сабачніка чамусьці клічуць...
Выходзіць, хлопцы, загарай.

На лютым ветры і марозе,
Снег і душу, і твар сячэ,
А з лесу па такой пагодзе
Ніхто нікуды не ўцячэ.

Але ж кагосьці не хапае.
Трывогу б'юць: «Уцёк! Уцёк!»
Аўчарка рвецца, снег капае,
Трашчыць сырычны павадок.

Галёкаюць, крычаць,
страляюць,
Бягуць лавіць уцекача,
А хлопцы ўголас разважаюць:
«Калі няшчаснага спаймаюць,
Улепяць «вышку» згарача».

Кастры у змроку дагарэлі,
А ты на ветры скавычы.
Відаць, ад голаду здурэлі,
Ці звар'яцелі ўцекачы.

А колькі іх? Што за прапажа?
І хто падаўся ў белы свет?
Пра гэта аніхто не скажа,
Бо гэта тайна і сакрэт.

Але куды ўцячэш у лютым?
Які да д'ябла тут пабег?
Калі галодны і разуты,
Калі вышэй папружкі снег?

Мы ўсе заходзімся да ночы
І лапцямі чачотку б'ём...
Аўчарка рвецца і якоча,
Папружку цягне ў буралом.

Няўжо знайшлі? Ці не
зашыўся,
Каб ноччу ўрэзаць лататы,
Але, відаць, дзівак забыўся, —
Куды ні сунешся, — пасты.

Яны і ў лесе, і на полі,
На вышцы, і каля кастра...
Як нас ахоўваюць, ніколі
Так не ахоўвалі цара.

Тваё засведчана аблічча
На картцы ў профіль і анфас,
Цябе, нібы каштоўнасць,
лічаць
На дзень, бывае, дзесяць раз.

Калі храпуць на голых нарах
На ўсе лады і галасы,
Ізноў падлічваюць па парах
Галовы, пяты і насы...

Да нар прыпнутага папружкай
Дні па чатыры мерцвяка
Хавалі хлопцы пад дзяружкай
Сабе для лішняга пайка.

«Сюды!» На кліч сабакавода,
Грузаючы за хмызняком,
Ужо спяшаецца падвода,
На ёй — начальнік і лекпом.

Гадаюць хлопцы: «Зацкавалі.
Падстрэлілі, а можа, горш.
Вось так не аднаго спісалі
Ні за панюшку, ні за грош».

Рассунуў конь дугою веццё.
І ён жа катаржнік сівы.
«Калі пры іх памочнік смерці,
Дык, значыць, уцякач жывы.

Хоць бы хутчэй яго прывезлі».
І хлопцы лаюцца у смак,
Бо кішкі да кішок прымерзлі
І заігралі кракавяк.

Вязуць! Няма, выходзіць,
страты.
Ён без наколак і прыкмет,
Сягоння спісаны з брыгады
У лепшы бесканвойны свет.

Ён паўтары адолеў нормы.
Ні ў чым яго не дакарай,
Ды нечакана збіты штормам
Падаўся ў пекла або ў рай.

Ну, вось і ўсё. Адбой канвою.
Настылі пілы на плячах,
І конь з панылай галавою
Павёз у зону «ўцекача».

...Ну, і трывушчы ж мы народ.
За што? За нечую памылку
Адбухалі па дзесяць год
І трапілі «навечна» ў ссылку.

## СПАКОЙНЫЯ НОЧЫ

За годам год дзесяцігоддзі
З бядой і радасцю прайшлі,
Таму ёсць прымаўка ў
народзе:
«Нішто не вечна на зямлі».

Не вечны боль, кумір
не вечны, —
Усяму свой час, свае гады,
Але за здраду небяспечней
Забыць злачынства
назаўжды.

Адно не забываў ніколі,
Ні ясным днём, ні па начах,
Ні ў радасці, ні ў горкай долі
Нятленны вобраз Ільіча.

Ён мне свяціў у долі горкай
І сёння ў радасным жыцці
Мне свеціць пуцяводнай
зоркай,
Каб да канца за ём ісці.

Перагартаўшы памяць зноўку,
Для шчасця ўнукаў і сыноў
Я ўголас гаварыць не змоўкну,
Каб час той не вяртаўся зноў.

Каб вечнай праўдаю сагрэты,
Агонь у сэрцах не ачах,
Каб мы, не верачы ў
прыкметы,
Спакойна спалі па начах,

Каб не палохаў гул машыны
І ў калідоры стук і звон,
Каб нават і на паўхвіліны
Кашмарны не вярнуўся сон.

Іду да фініша паволі
І ўсё выпростваю душу,
Таму нікому і ніколі
Я не схлусіў і не схлушу.

1980 — 87.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### У САЮЗЕ ТЭАТРАЛЬНЫХ ДЗЕЯЧАЎ БССР

Тэатральны саюз нашай рэспублікі робіць першыя крокі. Некалькі месяцаў, што мінулі з часу яго заснавання, былі напоўнены пошукам актыўных форм дзейнасці, распрацоўкай арганізацыйнай структуры, якая дазволіла б уплываць на сутнасць працэсаў, што адбываюцца ў сцэнічным мастацтве. Адкрываючы першы рабочы пленум праўлення СТД БССР, кіраўнік творчага саюза М. Яроменка праінфармаваў прысутных пра кола пытанняў, якія разглядаліся на пасяджэннях сакратарыята і прэзідыума. Створаны камісіі і творчыя секцыі саюза, зацверджаны іх планы. Аналізу становішча і перспектыў развіцця Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра было прысвечана выязное пасяджэнне прэзідыума СТД. Сакратарыят саюза ўважліва паставіўся да канфліктнай сітуацыі, якая ўзнікла ў калектыве Гомельскага абласнога драматычнага тэатра — пазнаёміўся з бягучым рэпертуарам, сустрэўся з трупай, кіраўніцтвам горада і вобласці, цяпер рыхтуецца сумеснае пасяджэнне бюро Гомельскага АК КПБ і сакратарыята СТД БССР.

Да ўвагі тэатральнай грамадскасці быў прадстаўлены праект Статута Саюза тэатральных дзеячаў рэспублікі. Удзельнікі пленума разгледзелі яго рэдакцыю, зробленую з улікам прапаноў і пажаданняў, выказаных на сходах тэатральных калектываў рэспублікі. Пасля зацікаўленага абмеркавання важнейшы дакумент новай творчай арганізацыі быў прыняты. Вызначаны мэты і задачы саюза, акрэслены асноўныя напрамкі дзейнасці, арганізацыйная будова. Выбраны дэлегаты на Усесаюзную тэатральную канферэнцыю, якая адбудзецца 28 мая ў Маскве.

Пленум праўлення СТД БССР абмеркаваў мерапрыемствы, скіраваныя на выкананне Пастановы ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб паляпшэнні ўмоў дзейнасці творчых саюзаў».

### Да 70-годдзя Кастрычніка

«Маладосць мая — Беларусь» — так называецца выстаўка літаратуры, арганізаваная ў Харкаўскай бібліятэцы імя А. П. Чэхава. У экспазіцыі прадстаўлены кнігі Максіма Танка, Янкі Брыля, Алеся Адамовіча, Васіля Быкава і іншых пісьменнікаў. Яна прымеркавана да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка і працягвае серыю выставак, прысвечаных літаратурам народаў СССР.

К. СЕРГІЕНЯ.

г. Харкаў.

### Да юбілею Францыска Скарыны

У плане Міністэрства сувязі СССР па выпуску паштовых марак на 1987 год намечана выданне паштовай мініяцюры да 500-годдзя з дня нараджэння Францыска Скарыны. Пра гэта паведаміў часопіс «Филателия СССР». Гэты ж часопіс апублікаваў план гашэнняў карэспандэнцыі спецыяльным штэмпелем «Першы дзень». Менавіта такое гашэнне намечана правесці на Мінскім паштамце ў дзень выхаду ў зварот паштовай маркі, прысвечанай беларускаму першадрукару. Намечаны таксама выпуск спецыяльнага канверта.

Л. КОЛАСАЎ,
член праўлення Беларускага аддзялення Усесаюзнага таварыства філатэлістаў.

### ЗАВЯРШЫЎСЯ АГЛЯД-КОНКУРС

Амаль чатыры месяцы працягваўся VIII абласны агляд-конкурс народных тэатраў Мінска і Мінскай вобласці, што праходзіў у рамках II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, прысвечанага 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. У ім прынялі ўдзел 30 самадзейных калектываў. Званне лаўрэата прысвоена пяці калектывам — народным тэатрам Палаца культуры Белсаўпрофа, Маладзечанскага ГДК, Палаца культуры Мінскага трактарнага завода імя У. І. Леніна, а таксама пантаміме «Рух» і эстрадна-цыркавому калектыву Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў імя Ільіча.

Дыпломамі II ступені адзначаны сем калектываў, III-й — чатыры.

На самадзейнай сцэне ў час агляду-конкурсу гледачы ўбачылі творы Янкі Купалы, Андрэя Макаёнка, Васіля Гарбацэвіча, Валянціны Коўтун, Георгія Марчука і іншых беларускіх аўтараў.

П. ГАРДЗІЕНКА.

ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ

# Першы творца — НАРОД

У апошні час вельмі востра ставяцца пытанні народнай культуры, асабліва вясковай і малых гарадоў (правінцыі). Ідуць дыскусіі ў прэсе, на тэлебачанні, выказваецца нездавальненне станам народнай творчасці, культурна-асветніцкай работы. Грамадская думка пачынае ўсведамляць страты, што адбыліся ў фальклоры, як вялікую бяду, памеры якой будзе адчуваць не адно пакаленне нашых нашчадкаў.

Прафесійнае (у сучасным сэнсе гэтага слова) мастацтва ў свой час выйшла з фальклорнага, і з той пары яны заўсёды існавалі побач, прафесійная і фальклорная традыцыі, узбагачаючы адна другую. Аўтарскае мастацтва карысталася сюжэтамі, вобразамі, творчымі прыёмамі, узятымі з фальклорнай практыкі. А народ, адначасова, апрацоўваў сюжэты і тэксты прафесійных аўтараў. Так было заўсёды і так павінна быць. Але што зараз рабіць, скажам, таму ж прафесійнаму тэатру? Дзе тая крыніца, да якой ён прыпадзе, калі, скажам, саб'ецца з дарогі ў пошуках абавязкова сучасных сродкаў выразнасці?

Безумоўна, ён зможа скарыстаць шматлікія апісанні народных відовішчаў, якія зроблены фалькларыстамі, этнографамі, пісьменнікамі. Але як ён уявіць сабе голас народнага выканаўцы? Яго трапны жэст і міміку? А без іх тэкст так і застанецца тэкстам. Тэатр пачнецца, калі нам яго раскажа і пакажа акцёр, выхаваны ў адпаведнай манеры. А манер такіх, як вядома, раней было шмат. Гэта і лялечны тэатр «Батлейка», і пастаноўкі народных драм, і выступленні кірмашовых дзядоў, а таксама тэатралізаваныя калядныя і валачобныя гульні. І кожны з пералічаных відаў меў толькі яму ўласцівыя жанравыя асаблівасці ў пластыцы, вымаўленні, касцюміроўцы і г. д. Ад іх пайшлі ў свой час развівацца розныя тэатральныя сістэмы, школы. І калі прафесійны тэатр адчуваў цяжкасці на сваім шляху, ён зноў звяртаўся да крыніц народнай творчасці, пераасэнсоўваў сваю існасць і адраджаўся наноў.

**Многія народы захоўваюць да сённяшняга дня традыцыйныя жанры ў іх натуральным жывым абліччы, альбо ствараюць прафесійныя трупы, якія ставяць сваёй мэтай кансервацыю традыцыйных прыёмаў. Прыкладам можа служыць трупа Пекінскай оперы, што не так даўно выступала ў Мінску.**

**У нас у Беларусі з усіх відаў народнай тэатралізаванай дзейнасці сёння больш-менш захаваліся калядныя і вясельныя гульні з пераапрананнем. Пад Новы год выходзяць яшчэ на гарадскія і вясковыя вуліцы Каза, Мядзведзь, Цыганы, Доктар, Салдат. Могуць трапіць і сучасныя персанажы: Электрык, Настаўнік, Міліцыянер і г. д. На вяселле часта прыходзяць, нават у горадзе, пераапранутыя Жаніхом і Нявестай. Каму даводзілася назіраць такія відовішчы на каляды, альбо на сямейных урачыстасцях, той помніць пачуццё радасці, лёгкасці, дзіцячай усёдазволенасці, якое абавязкова ўзнікае і якое так патрэбна чалавеку ў час адпачынку і святаў. Але, на жаль, каляднікаў становіцца ўсё менш з кожным годам. Іх эстэтыка не супадае з той, якая ідзе ў сяло з горада. Адукаванаму густу культасветработніка, настаўніка, вясковага інтэлігента народны гумар здаецца грубым.**

На заклік «адраджаць старадаўнія звычаі» часцей за ўсё адказваюць так, як апісала А. Хатэнка ў артыкуле «Не разбураць, а ствараць» («ЛіМ», нумар за 30.1.1987) «Дэлегацыя перадавікоў прадпрыемства ці арганізацыі на чале з прадстаўніком партыйных органаў наведвае аднаго з лепшых працаўнікоў калядным вечарам і такім чынам стымулюе працу ўсіх астатніх...» Умеюць сучасныя культработнікі інсцэніраваць і калядныя гульні: на Кірмашы альбо на праводзінах Зімы пераапрануць хлопцаў і дзяўчат у адзенне з клубнай касцюмернай. Атрымоўваюцца Цыганы, Скамарохі, Вяснянкі, Снягуркі, Гномы, Хатабычы і г. д. Але ж гэта ўсё персанажы школьнага карнавалу, дзе пераапранаюцца дзеля самога пераапранання, а не дзеля стварэння вобраза. Такім чынам, намагаючыся падтрымаць народныя традыцыі, мы, ад няведання, пачынаем замяняць іх нечым недарэчным.

Ну, ды гэта тэма для асобнага артыкула!

Калі ж вярнуцца да распачатай тэмы, дык трэба ўспомніць, што ёсць у нас у рэспубліцы 83 народныя тэатры. Можа, яны адыграюць ролю выратавальнай крыніцы для прафесійнага тэатра? Ці, можа, яны для народа зараз з'яўляюцца формай рэалізацыі яго патрэб у драматызаваным дзеянні?!

На жаль, гэта за рэдкім выключэннем не так. Сучасны самадзейны тэатр — плоць ад плоці прафесійнага, бо рэжысёраў для яго выхоўваюць на лепшых дасягненнях прафесійнага тэатра. І калі аматарскі тэатр можа нешта пазычыць у свайго больш масцітага, больш багатага брата, то прафесійны ў самадзейным бачыць свой учарашні дзень. Такім чынам, самадзейны тэатр бясконца чэрпае выразныя сродкі з прафесійнага. Пакуль што іншы шлях для самадзейнага тэатра ўявіць цяжка. Фарміраванне творчага аблічча народных тэатраў на сённяшні дзень ідзе не стыхійна і самому народу непадуладна. Існуе цэлая сістэма кіравання і нагляду за гэтым працэсам: самі рэжысёры, аддзелы культуры, навукова-метадычныя службы, шматлікія творчыя секцыі і камісіі. І ўсё гэта людзі, выхаваныя на прафесійным мастацтве, за яго яны часцей за ўсё і змагаюцца.

Таксама не з'яўляецца аматарскі тэатр формай вольнага народнага творчага самавыяўлення, бо ў яго абмежаванае кола ўдзельнікаў. Гэта толькі тыя людзі, якія могуць наведваць 2—3 разы ў тыдзень рэпетыцыі, займацца мовай, рухам, эцюдамі, доўга рэпеціраваць, выконваць волю творцы-рэжысёра. А пасля таго, як спектакль будзе падрыхтаваны, паказаць яго некалькі разоў у базавым ДК, вывезці ў некаторыя вёскі, можа, на якія агляды, ды зноў прыступіць да пастаноўкі новай п'есы, калі ўжо цяжка стане шукаць гледача, што старой пастаноўкі не бачыў.

**У народным вясковым тэатры (умоўна так яго назавём) некалі ўсё было інакш. Тут п'есы рэдка мяняліся. Ставілі «Цара Ірада», альбо «Цара Максіміляна», некалькі батлеечных інтэрмедый. Калядныя і вясельныя гульні таксама звычайна мелі пэўны сцэнарый і закон, які быў знаёмы і гледачам, і акцёрам, таму гледачы заўсёды маглі неабмежавана рэагаваць на дзеянне, кідаць свае рэплікі, заўвагі, уключацца ў дзеянне ў якасці новых персанажаў.**

**Народныя драмы ставілі толькі раз у год, пад час каляд. П'есу ўсе добра ведалі. І ў тым была свая асалода, цікава было, як новыя ці старыя выканаўцы справяцца з ролямі. Таму выконваць іх браліся людзі, якія мелі і адчувалі ў сабе здольнасці да акцёрства, пераўвасаблення. Кожны новы артыст улічваў вопыт сваіх папярэднікаў (традыцыю), нешта ўносіў сваё, адметнае. Вялікую ролю адыгрывала імправізацыя. Такім чынам, атрымлівалася, што дзеянне, усім да дробязей знаёмае, прыносіла асалоду не меншую гледачам і выканаўцам, чым спектакль, спецыяльна падрыхтаваны па новай п'есе і гледачам невядомы. Больш таго, на працягу гадоў і дзесяцігоддзяў (а ў дачыненні да калядных гульняў — і стагоддзяў) шліфавалася выканаўчае майстэрства і выразныя пластычныя, моўныя сродкі, ствараліся гратэскныя вобразы: трапныя, незабыўныя, у іх адлюстравалася нацыянальнае светаадчуванне. І хаця ў пастаноўшчыкаў народных драм не было спецыяльнага будынка і «трупа» фарміравалася незадоўга да самой пастаноўкі, пра спектаклі на каляды можна было гаварыць, як пра існаванне сапраўднага народнага тэатра з яго адметнымі стылістычнымі рысамі. І да такога тэатра ў свой час можна было звярнуцца, як да вытоку натхнення, вобразаў, акцёрскіх прыёмаў.**

Ну, але што з замілаваннем азірацца ў мінулае! Трэба дбаць пра дзень сённяшні і заўтрашні. Тым больш, што жыццё не стаіць, і з цягам часу на месца састарэлых, не адпавядаючых запатрабаванням форм творчасці, побыту, адпачынку прыходзяць новыя. Нейкія працэсы адбываюцца і ў сучасным творчым жыцці народа, толькі не заўсёды мы іх у пару заўважаем і не заўсёды правільна, разумна да іх ставімся. І ад таго нашы здабыткі часам ператвараюцца ў страты, не паспеўшы развіцца ў сталыя формы.

Не аднолькава складаюцца і творчыя аблічччы нашых самадзейных тэатраў. Ёсць сярод іх такія, што не ідуць у такт з усімі, а выпрацоўваюць свае манеры, жанры, шляхі, развіваюць народныя тэатральныя традыцыі. Сярод іх найперш трэба сказаць пра тэатр у Мазыры, якім ужо 22 гады кіруе М. Колас. Летась мазыране выязджалі ў Эстонію на «Рампу дружбы» са спектаклем па п'есе Г. Марчука «Люцікі-кветачкі». Адтуль яны прывезлі галоўны прыз. У лютым Беларускае тэлебачанне паказала гэты спектакль. Акцёры ў ім іграюць шчыра, аддана, з асалодай і нават са шчаслівай весялосцю. Яны не баяцца залішне пераіграць. У М. Коласа мы сустракаемся з сапраўднай, не занядбанай, не падмененай тэатральнасцю, мы бачым, што называецца, чысты жанр. Рэжысёр надзвычай тактоўна ўводзіць у спектакль мелодыі народных песень і нават галашэнняў (у камічных сцэнах). І ўсё гэта гучыць арганічна, адпавядае настрою герояў, светаадчуванню сучасных сялян, здароваму народнаму густу.

У сувязі з гэтым нагадаем артыкул кіраўніка тэатра «Жалейка» М. Макарцова ў «ЛіМе». Ён там вінавաціў Коласа, што той не звяртаецца да фальклору, не едзе запісваць яго «да свайго роднага дзядзькі ў Лельчыцкі раён». Ёсць розныя шляхі мастацтва да фальклору. Самы распаўсюджаны сёння — цытатны шлях. Гэта калі на акцёраў надзяваюць саматканыя світкі, застаўляюць сцэну прасніцамі, збанамі, кошыкамі і г. д. М. Колас ідзе тут іншым — мастацкім, асацыятыўным — шляхам. Ён распрацоўвае традыцыі народнага тэатральнага выканаўства (ці не таму яго спектаклі збіраюць заўсёды поўную залу).

Ёсць і такі прыклад.

**З'явілася нядаўна ў нас у Беларусі ў вёсцы Залессе Смаргонскага раёна раней забытая «Батлейка». Стварылі яе мастакі — графікі па адукацыі, выпускнікі тэатральна-мастацкага інстытута Я. Ліс і А. Лось. Спачатку паставілі традыцыйна батлеечную п'есу «Цар Ірад», а пасля пачалі ствараць спектаклі на сучасныя тэмы з захаваннем стылістычных і жанравых асаблівасцей традыцыйнай батлейкі. Не раз выступалі ў Мінску, на тэлебачанні, былі на «Рампе дружбы», адкуль прывезлі шматлікія ўзнагароды. Залеская батлейка — з'ява выключная не толькі ў самадзейнасці, але і ў беларускім мастацтве, таму што спектаклі батлейкі зроблены на мове (у шырокім сэнсе гэтага слова), зразумелай народу, з творчых сродкаў, якія і сёння ёсць у народа. Батлейка сабрала вакол сябе вясковых музыкантаў, спевакоў. Вяртаюцца да жыцця многія іншыя жанры народнай творчасці, забытыя формы адпачынку і старадаўнія святы. І ёсць такое адчуванне, што калі кіраўнікі залескай батлейкі аднойчы не вытрымаюць цяжкіх умоў «раённай культуры» і ўцякуць, батлейка застанецца. Толькі шкада, што папулярны тэатр сталі ўсё часцей запрашаць выступаць у гарадскіх умовах. Таго патрабуе статус «народнага» тэатра. Але ж у гарадской сцэны свае патрабаванні і яны могуць падзейнічаць на існуючы стыль вясковай батлейкі. Тут трэба выбіраць, каму служыць: гораду ці вёсцы. Калі служыць і таму, і другому, то горад пераможа. І батлейкі не будзе, як не стала ўжо многага. Аазісаў сапраўднай стыхійнай народнай творчасці ў нас становіцца ўсё менш і менш.**

Я ведаю, што некалі ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі існавала цудоўная традыцыя: вясной кожны год адбываўся агляд мастацкай самадзейнасці. 9 факультэтаў, апроч розных іншых жанраў, рыхтавалі да паказу шматактовыя спектаклі. Гэта было, па сведчанні многіх жыхароў Горак, незабыўнае свята. 9 спектакляў, не падобных адзін на другі, мелі магчымасць паглядзець студэнты і выкладчыкі акадэміі і жыхары горада. Сіла ўздзеяння была вялікая. Расказваюць, што калі ставілі «Барабаншчыцу» А. Салынскага, дык выканаўца галоўнай ролі так пераканаўча сыграла апошнюю сцэну, што расчуленыя гледачы хадзілі за кулісы, каб пераканацца, што самадзейная артыстка не памерла на самай справе.

Але вось з'явілася ў штатным раскладзе адзінка рэжысёра, і традыцыя сплыла ў нябыт, бо адукаванаму рэжысёру самаробныя спектаклі падаліся залішне сентыментальнымі, акцёры ігралі «не па сістэме Станіслаўскага», дазвалялі сабе імправізацыі тэкставыя. Пачалі рэжысёры замест гэтага ствараць спектаклі, якія адпавядаюць густу, набытаму ў навучальнай установе, і да гэтага часу нічога адметнага, значнага не стварылі.

Відаць, наспеў час перагледзець каштоўнасныя катэгорыі, якія існуюць сёння ў дачыненні да мастацкай самадзейнасці, а таксама рэгламент усёй яе дзейнасці. Думаю, па-новаму трэба глянуць і на ролю культработніка. Нельга лічыць яго носьбітам культуры. І стваральнікам яе. Культуру стварае народ. Культработнік стварае ўмовы: арганізуе выстаўкі, дае памяшканне, праводзіць агляды, узнагароджвае і г. д. Ён — мастацтвазнавец, ён — «мецэнат» ад дзяржавы!

Ларыса РЫЖКОВА.

**Неўзабаве ў Мінску адбудзецца ўстаноўчая канферэнцыя Музычнага таварыства Беларускай ССР. На канферэнцыі будзе прыняты Статут гэтай новай арганізацыі. Сёння ўвазе грамадскасці прапануецца праект Статута МТ БССР.**

ПРАЕКТ

# СТАТУТ

## Музычнага таварыства Беларускай ССР (МТ БССР)

### I. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ. МЭТЫ І ЗАДАЧЫ

1. Музычнае таварыства Беларускай ССР—добраахвотная грамадская арганізацыя, якая аб'ядноўвае дзеячаў музычнай культуры, прафесійных музыкантаў, педагогаў, навучэнцаў, удзельнікаў мастацкай самадзейнасці, шырокія масы аматараў музыкі.

Заснавальнікамі Музычнага таварыства Беларускай ССР з'яўляюцца Міністэрства культуры БССР, Белсаўпроф, Саюз кампазітараў БССР і ЦК ЛКСМБ. Уся дзейнасць Таварыства праводзіцца ў цесным кантакце з дзяржаўнымі, кааператыўнымі, прафсаюзнымі, камсамольскімі і іншымі грамадскімі арганізацыямі, творчымі саюзамі, грунтуецца на ініцыятыве і самадзейнасці членаў МТ, іх актыўным удзеле ў мерапрыемствах Таварыства.

2. Адпаведна з рашэннямі партыі і ўрада, Таварыства заклікана ўсяляк садзейнічаць больш поўнаму і глыбокаму асваенню працоўнымі, моладдзю багацця духоўнай культуры, фарміраванню гарманічна развітой асобы, патрыятычнаму, маральнаму і эстэтычнаму выхаванню савецкіх людзей, арганізацыі іх змястоўнага адпачынку, развіццю і прапагандзе музычнага мастацтва, прыцягненню шырокіх мас аматараў музыкі ў справу далейшага ўздыму савецкай музычнай культуры, удасканаленню форм і метадаў музычнага асветніцтва.

3. Музычнае таварыства Беларускай ССР ставіць перад сабой наступныя асноўныя задачы:

— аб'яднанне і каардынацыя намаганняў дзеячаў мастацтва і аматараў музыкі з мэтай павышэння ролі музычнага мастацтва ў ідэйна-эстэтычным выхаванні савецкага народа, умацавання рознабаковых сувязей прафесійных музыкантаў і харэографаў з удзельнікамі мастацкай самадзейнасці, развіцця і ўдасканалення музычна-эстэтычнага асветніцтва і культурна-шэфскай работы;

— мэтанакіраваная і маштабная прапаганда сярод насельніцтва лепшых узораў айчыннай і сусветнай музычнай культуры;

— аказанне дзейснай дапамогі сям'і і школе ў музычна-эстэтычным выхаванні дзяцей і падлеткаў;

— захаванне нацыянальнай музычнай спадчыны, адраджэнне і развіццё айчынных бытавых музычных і танцавальных традыцый, масавага харавога і сямейнага спявання, хатняга музіцыравання, ашчадлівае стаўленне да збірання, запісу, выдання, выканання і прапаганды музычнага фальклору;

— садзейнічанне фарміраванню ў працоўных, моладзі і падрастаючага пакалення марксісцка-ленінскіх ідэйна-эстэтычных крытэрыяў і здаровых музычных густаў;

— правядзенне актыўнай контрпрапагандысцкай дзейнасці ў музычным асяроддзі, барацьба супраць чужароднага музычнага ўздзеяння, пераймання заходняй масавай культуры.

4. Для выканання асноўных задач МТ БССР:

— фарміруе сетку клубаў аматараў музыкі па інтарэсах, музычных універсітэтаў і лекторыяў, дамоў музыкі і народных філармоній, кіруе іх дзейнасцю, аказваючы ім пастаянную метадычную і арганізацыйную дапамогу, распрацоўваючы тыпавыя статуты і палажэнні;

— арганізуе правядзенне курсаў, семінараў, стажыровак і навукова-практычных канферэнцый для актывістаў Таварыства з мэтай павышэння іх тэарэтычнай і метадычнай падрыхтоўкі, распаўсюджвання вопыту музычна-асветніцкай дзейнасці;

— садзейнічае стварэнню самадзейных музычных і харэаграфічных калектываў, арганізуе студыі па вывучэнні народнага музычнага мастацтва, музычныя і харэаграфічныя студыі на прынцыпах самаакупнасці; утрымлівае там, дзе гэта неабходна, кіраўнікоў хораў, аркестраў і ансамбляў народнай, духавой і эстраднай музыкі;

— праводзіць разнастайную шэфскую работу сярод аматараў музыкі, прыцягваючы ў яе прафесійных музыкантаў і харэографаў, музычныя ўстановы і канцэртныя арганізацыі, пашыраючы кола членаў Таварыства; пастаянна ўдасканальвае формы шэфскай работы, абагульняе вопыт яе правядзення сярод рабочых, працаўнікоў сяла, ваеннаслужачых, навучэнцаў;

— арганізуе краязнаўчую работу па вывучэнні гісторыі музычнай культуры гарадоў і абласцей рэспублікі, садзейнічае ўшанаванню памяці выдатных музычных дзеячаў; устанаўлівае і ажыццяўляе цесныя кантакты з іншымі добраахвотнымі грамадскімі арганізацыямі;

— удзельнічае ў рабоце грамадскіх саветаў пры філармоніях, музычных тэатрах, рэдакцыях Дзяржтэлерадыё БССР з мэтай паляпшэння зместу рэпертуару, умацавання творчых сувязей музычнай аўдыторыі з канцэртнымі выканаўцамі, у складанні планаў работы канцэртных арганізацый і музычных тэатраў;

— прымае ўдзел у стварэнні аматарскіх музычных і танцавальных калектываў па месцы жыхарства, каардынуе іх работу, аказвае неабходную арганізацыйную і метадычную дапамогу; арганізуе лекцыі, канцэрты, выстаўкі, творчыя вечары і сустрэчы, іншыя мерапрыемствы, звязаныя з прапагандай музычнага мастацтва, актыўна выкарыстоўваючы для гэтай мэты клубы, дамы і палацы культуры, культурна-спартыўныя комплексы і іншыя культурна-асветныя ўстановы (залы навучальных устаноў, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, маладзёжных інтэрнатаў, дзіцячыя, падлеткавыя клубы, бібліятэкі, музеі);

— ажыццяўляе актыўную музычна-асветніцкую дзейнасць, вывучае, абагульняе і распаўсюджвае перадавы вопыт гэтай дзейнасці, садзейнічае ўкараненню і распаўсюджанню новых прагрэсіўных яе форм; праводзіць дыскусіі, канферэнцыі, нарады па пытаннях музычнага жыцця і музычнай культуры ў СССР;

— усяляк садзейнічае ў атрыманні музычна-эстэтычных ведаў вучнёўскай моладдзю і падрастаючым пакаленнем, ажыццяўляе сумесна з дзяржаўнымі ўстановамі і прафсаюзнымі арганізацыямі масавую асветніцкую дзейнасць у школах, прафтэхвучылішчах, арганізуе маладзёжныя, дзіцячыя музычныя клубы ў культурна-асветных і пазашкольных установах;

— праводзіць фестывалі, конкурсы, святы музыкі, лекцыі, выстаўкі, творчыя вечары ва ўстаноўленым парадку;

— выдае метадычныя дапаможнікі, зборнікі, спецыяльную літаратуру па пытаннях музычнага і харэаграфічнага мастацтва, рэкламную прадукцыю;

— удзельнічае ў разглядзе прапаноў, скіраваных на паляпшэнне музычнага выхавання, асветы і прапаганды;

— адкрывае і ўтрымлівае ва ўстаноўленым парадку вытворчыя і гандлёвыя прадпрыемствы, у прыватнасці, арганізуе спецыялізаваныя прадпрыемствы і майстэрні па пашыве сцэнічных касцюмаў, па выпуску і рэстаўрацыі музычных інструментаў, продажы нот, музычнай і метадычнай літаратуры і інш.;

— стварае ва ўстаноўленым парадку дамы творчасці, бібліятэкі, фона- і відэатэкі, метадычныя кабінеты;

— стварае ўмовы для аздараўлення і адпачынку членаў Таварыства, выдае актыву Таварыства пуцёўкі ў дамы творчасці, аказвае матэрыяльную дапамогу;

— стварае фонды па прэміраванні актывістаў Таварыства, пераможцаў конкурсаў, аглядаў, фестываляў, штатных работнікаў апарату Таварыства і падведамасных арганізацый;

— хадайнічае перад адпаведнымі органамі аб прысваенні ганаровых званняў членам Таварыства, якія асабліва вызначыліся і маюць вялікія заслугі;

— ажыццяўляе творчыя кантакты з аналагічнымі таварыствамі сацыялістычных краін, з прагрэсіўнымі замежнымі дзеячамі музычнага і харэаграфічнага мастацтва.

### II. ЧЛЕНЫ ТАВАРЫСТВА, ІХ АБАВЯЗКІ І ПРАВЫ

5. Членамі МТ БССР могуць быць грамадзяне СССР, якім споўнілася 16 гадоў і якія прызнаюць яго Статут, актыўна працуюць у адной з пярвічных арганізацый і штогод плацяць членскія ўзносы.

Навучэнцы школ і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў ва ўзросце да 16 гадоў, якія жадаюць прыняць удзел у вырашэнні задач, што стаяць перад Таварыствам, могуць уступіць у пярвічную арганізацыю ў якасці юных членаў МТ БССР. Юныя члены Таварыства таксама плацяць членскія ўзносы.

6. Прыём у члены МТ БССР праводзіцца пярвічнымі арганізацыямі Таварыства на падставе пісьмовай заявы таго, хто ўступае. Рашэнне пярвічнай арганізацыі аб прыёме падлягае зацвярджэнню праўленнем раённага, абласнога аддзяленняў Таварыства.

Члены МТ БССР атрымліваюць членскія білеты і нагрудныя значкі Таварыства. Юным членам Таварыства ўручаюцца нагрудныя значкі «Юны член МТ БССР».

7. Члены МТ БССР абавязаны:

— быць актыўнымі прапагандыстамі музычнага мастацтва, весці асветніцкую работу сярод насельніцтва, прыцягваць аматараў музыкі ў самадзейныя музычныя калектывы і ў члены Таварыства, садзейнічаць філармоніям і музычным тэатрам у распаўсюджанні інфармацыі пра іх творчую дзейнасць;

— выконваць усе патрабаванні Статута, актыўна ўдзельнічаць у творчай і арганізацыйнай рабоце адной з пярвічных арганізацый Таварыства;

— своечасова плаціць членскія ўзносы.

8. Члены МТ БССР маюць права:

— выбіраць і быць выбранымі на канферэнцыі і з'езды, а таксама ў кіруючыя органы і рэвізійныя камісіі Таварыства;

— удзельнічаць ва ўсёй арганізацыйнай, прапагандысцкай і метадычнай дзейнасці Таварыства, удзельнічаць з правам рашаючага голасу ў сходах Таварыства, уносіць у пярвічную арганізацыю і кіруючыя органы Таварыства прапановы, якія садзейнічаюць развіццю і паляпшэнню музычна-асветніцкай дзейнасці Таварыства;

— атрымліваць кансультацыі і метадычную дапамогу, вучыцца на курсах і семінарах, што арганізуюцца Таварыствам, мець прыярытэтнае права ў набыцці нот, музычнай літаратуры і музычных інструментаў, у карыстанні нотнымі і кніжнымі бібліятэкамі, фанатэкамі і відэатэкамі, што належаць Таварыству.

9. За актыўны ўдзел у творчай і арганізацыйнай дзейнасці члены Таварыства могуць быць узнагароджаны ва ўстаноўленым парадку Ганаровай граматай або дыпломам Таварыства, грашовымі прэміямі, каштоўнымі падарункамі, прызамі, занесены ў Кнігу гонару праўлення МТ БССР.

10. Члены МТ БССР могуць быць выключаны з Таварыства рашэннем пярвічнай арганізацыі, якое прымаецца агульным сходам і лічыцца прынятым, калі за яго прагаласавала не менш чым 2/3 прысутных на сходзе.

Падставамі для выключэння з'яўляюцца:

— здзяйсненне правіннасцей антыграмадскага і амаральнага характару, несумяшчальных з прынцыпамі і задачамі, сфармуляванымі ў гэтым Статуце;

— сістэматычная няўплата членскіх узносаў.

За выключаным захоўваецца права ў двухмесячны тэрмін абскардзіць гэтае рашэнне ў прэзідыуме праўлення Таварыства, пастанова якога з'яўляецца канчатковай.

11. Парадак пераходу з МТ БССР у музычнае таварыства іншай саюзнай рэспублікі (у выпадку перамены месца працы і жыхарства) вызначаецца прэзідыумамі музычных таварыстваў з улікам захавання стажу знаходжання ў Таварыстве.

### III. АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ ПАБУДОВА МУЗЫЧНАГА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ССР

12. МТ БССР дзейнічае на падставе гэтага Статута адпаведна з прынцыпамі дэмакратычнага цэнтралізму: выбарнасці і перыядычнай справаздачнасці кіруючых органаў (перад сваімі арганізацыямі і перад вышэйстаячымі аддзяленнямі Таварыства), прыняцця рашэння большасцю галасоў, падпарадкавання ніжэйстаячых арганізацый Таварыства вышэйстаячым.

13. МТ БССР будуецца па тэрытарыяльным прынцыпе. У рэспубліцы дзейнічаюць абласныя, гарадскія і раённыя аддзяленні Таварыства.

14. Вышэйшым органам МТ БССР з'яўляецца з'езд МТ БССР, які склікаецца раз у пяць гадоў.

Норма прадстаўніцтва і парадак выбрання дэлегатаў на з'езд устанаўліваецца праўленнем МТ БССР. Аб скліканні і парадку дня з'езда праўленне Таварыства аб'яўляе не пазней, чым за шэсць месяцаў да яго адкрыцця.

Выбары дэлегатаў на з'езд МТ БССР праводзяцца на канферэнцыях аддзяленняў Таварыства абласцей, гарадоў і раёнаў рэспублікі.

З'езд лічыцца правамоцным, калі ў яго рабоце прымае ўдзел не менш за дзве трэці выбраных дэлегатаў.

Нечарговы з'езд можа быць скліканы па ініцыятыве праўлення Таварыства або па патрабаванні не менш чым 1/3 агульнай колькасці членаў Таварыства, прадстаўленых на апошнім з'ездзе. Нечарговы з'езд склікаецца ў трохмесячны тэрмін і лічыцца сапраўдным, калі на ім прадстаўлена не менш за палову членаў Таварыства.

**15. З'езд Музычнага таварыства Беларускай ССР:**

— прымае Статут Таварыства, уносіць у яго змены і дадаткі;

— вызначае асноўныя напрамкі дзейнасці Таварыства;

— разглядае і зацвярджае вынікі дзейнасці праўлення і рэвізійнай камісіі за справаздачны перыяд;

— устанаўлівае колькасны склад праўлення і рэвізійнай камісіі, выбірае іх адкрытым галасаваннем;

— выбірае дэлегатаў на з'езд Усесаюзнага музычнага таварыства.

16. Кіруючым органам МТ БССР у перыяд паміж з'ездамі з'яўляецца праўленне.

**Праўленне Музычнага таварыства БССР:**

— кіруе ўсёй дзейнасцю Таварыства адпаведна са Статутам;

— арганізуе выкананне рашэнняў партыі і ўрада ў галіне культурнага будаўніцтва, ажыццяўляе рашэнні з'ездаў Усесаюзнага і рэспубліканскага музычных таварыстваў;

— разглядае і зацвярджае справаздачныя даклады праўлення з'езду і штогадовыя справаздачы прэзідыума праўлення аб яго рабоце;

— склікае пленумы праўлення Таварыства не радзей за адзін раз на год. Пленумы лічацца правамоцнымі пры ўдзеле не менш за палову членаў праўлення;

— узнагароджвае лепшыя харавыя, танцавальныя, аркестравыя і фальклорныя калектывы, вакальныя і інструментальныя ансамблі, іх удзельнікаў, кіраўнікоў, асобных выканаўцаў, актывістаў Таварыства граматамі, каштоўнымі падарункамі, грашовымі прэміямі;

— прымае рашэнні аб арганізацыі і ліквідацыі падведамасных вытворчых прадпрыемстваў і аддзяленняў МТ БССР.

Рэспубліканскае праўленне робіць справаздачу аб сваёй рабоце перад Цэнтральным

праўленнем Усесаюзнага музычнага таварыства.

Праўленне правамоцнае ў выпадку неабходнасці кааптаваць ці выводзіць членаў праўлення.

Месцам знаходжання праўлення МТ БССР з'яўляецца г. Мінск.

17. Праўленне МТ БССР вызначае колькасны склад прэзідыума праўлення Таварыства і выбірае адкрытым галасаваннем з ліку членаў праўлення прэзідыум у складзе старшыні і членаў прэзідыума, зацвярджае намеснікаў старшыні. Пасяджэнні прэзідыума праводзяцца не радзей чым адзін раз у квартал.

**Прэзідыум праўлення Таварыства:**

— накіроўвае і арганізуе ўсю работу адпаведна са Статутам, рашэннямі з'ездаў і пленумаў праўлення Таварыства;

— ажыццяўляе кіраўніцтва і кантроль за ідэйна-творчай, арганізацыйнай, вытворчай і выдавецкай дзейнасцю аддзяленняў і прадпрыемстваў Таварыства;

— разглядае і зацвярджае бягучыя і перспектыўныя планы работы і арганізуе праверку выканання рашэнняў з'ездаў і пленумаў праўлення;

— стварае камісіі, секцыі, творчыя, метадычныя і грамадскія саветы і аб'яднанні, зацвярджае палажэнні аб іх, кіруе імі і аказвае ім дапамогу;

— кіруе фінансава-гаспадарчай работай Таварыства, ва ўстаноўленым парадку зацвярджае каштарысы выдаткаў і даходаў, ліміты на творчыя камандзіроўкі, структуру, штаты і фонды заработнай платы апаратаў праўлення і абласных аддзяленняў, арганізуе адзіную сістэму ўліку і справаздачнасці;

— прадстаўляе інтарэсы Таварыства ў дзяржаўных і грамадскіх арганізацыях, органах суда і арбітражу;

— прызначае з членаў прэзідыума бюро для штодзённага кіраўніцтва ўсёй арганізацыйна-творчай дзейнасцю і бягучымі справамі Таварыства ў складзе старшыні прэзідыума, намеснікаў старшыні, адказнага сакратара і членаў бюро ў колькасці, вызначанай прэзідыумам.

**18. Бюро прэзідыума праўлення МТ БССР:**

— ажыццяўляе ў перыяд паміж пасяджэннямі прэзідыума кіраўніцтва бягучай творчай, арганізацыйнай, выдавецкай і фінансавай дзейнасцю Таварыства, яго арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў;

— ажыццяўляе кантроль за арганізацыйна-творчай дзейнасцю аддзяленняў Таварыства;

— кіруе дзейнасцю апарату праўлення.

19. Вышэйшымі органамі аддзяленняў МТ БССР у абласцях, гарадах і раёнах з'яўляюцца канферэнцыі, якія склікаюцца адзін раз у два з паловай гады.

У перыяд паміж канферэнцыямі дзейнасцю арганізацыі кіруе праўленне абласнога, гарадскога і раённага аддзяленняў Таварыства, пленарныя пасяджэнні якога праводзяцца не радзей чым два разы на год. Для вядзення бягучай работы праўленне выбірае адкрытым галасаваннем прэзідыум у складзе старшыні, намеснікаў старшыні, адказнага сакратара і членаў прэзідыума.

20. Прэзідыум праўлення абласнога, гарадскога і раённага аддзяленняў Таварыства:

— у перыяд паміж пасяджэннямі праўлення ажыццяўляе кіраўніцтва бягучай творчай і арганізацыйнай работай аддзялення Таварыства;

— прымае рашэнне аб стварэнні ніжэйстаячых арганізацый Таварыства, стварае секцыі і камісіі пры прэзідыуме і кіруе іх работай;

— заслухоўвае і зацвярджае планы і справаздачы ніжэйстаячых арганізацый, секцый і камісій;

— прымае ад пярвічных арганізацый уступныя і членскія ўзносы і своечасова пералічвае іх на рахунак Таварыства;

— робіць справаздачу аб сваёй рабоце перад праўленнем МТ БССР.

21. Арганізацыйнай асновай МТ БССР з'яўляецца **пярвічная арганізацыя.** Пярвічныя арганізацыі Таварыства ствараюцца на прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах, установах, навучальных установах, клубах і палацах культуры, дамах і палацах піянераў, вайсковых часцях, па месцы жыхарства і з'яўляюцца аматарскімі аб'яднаннямі па музычных інтарэсах (клубы харавой, камернай, эстраднай музыкі, аматараў песні; студыі, музычныя і танцавальныя калектывы, творчыя майстэрні і г. д.) пры наяўнасці ў іх не менш за дзесяць чалавек, якія жадаюць уступіць у члены Таварыства.

Агульны сход пярвічнай арганізацыі Таварыства, якая налічвае ў сваім складзе да 20 чалавек, выбірае старшыню і сакратара-казначэя тэрмінам на два гады для ажыццяўлення кіраўніцтва арганізацыяй. У пярвічнай арганізацыі, якая налічвае больш за 20 чалавек, выбіраецца бюро ў складзе 3—7 чалавек. Са складу бюро выбіраецца старшыня, яго намеснік і сакратар-казначэй.

22. У штодзённай рабоце з юнымі членамі МТ БССР пярвічныя арганізацыі кіруюцца мэтай усебаковага далучэння падрастаючага пакалення да музычнай культуры, прыцягнення юных аматараў музыкі да актыўнага ўдзелу ў самадзейнай музычнай творчасці, авалодання асновамі музычных ведаў.

Юныя аматары музыкі могуць на льготных умовах удзельнічаць у музычных мерапрыемствах, што арганізуюцца Таварыствам.

23. Агульны сход пярвічнай арганізацыі МТ БССР склікаецца па меры неабходнасці, але не менш за два разы на год.

Агульны сход пярвічнай арганізацыі:

— выбірае грамадскі савет у складзе старшыні, сакратара, казначэя і членаў савета;

— выбірае дэлегатаў на гарадскую, раённую канферэнцыі;

— абмяркоўвае актуальныя пытанні дзейнасці пярвічнай арганізацыі;

— прымае ў Таварыства новых членаў;

— разглядае і зацвярджае планы і справаздачы саветаў пярвічнай арганізацыі;

— накіроўвае і кіруе дзейнасцю аб'яднання юных аматараў музыкі.

Рашэнні прымаюцца простай большасцю галасоў.

**Савет пярвічнай арганізацыі:**

— арганізуе работу пярвічнай арганізацыі;

— выдае членскія білеты і нагрудныя значкі членаў Таварыства, збірае ўступныя і членскія ўзносы;

— прадстаўляе ў кіруючыя органы Таварыства хадайніцтвы аб заахвочванні членаў і пярвічных арганізацый Таварыства за дасягнутыя поспехі;

— накіроўвае сваіх членаў для навучання на курсах і семінарах, што арганізуюцца Таварыствам.

24. З'езд МТ БССР, канферэнцыі абласныя, гарадскія і раённыя выбіраюць адкрытым галасаваннем **рэвізійныя камісіі**, якія выбіраюць са свайго складу адкрытым галасаваннем старшыню, намесніка старшыні і сакратара.

Рэвізійныя камісіі трымаюць справаздачу аб сваёй дзейнасці перад органамі, якія іх выбралі.

25. **Рэвізійная камісія МТ БССР:**

— правярае выкананне Статута, рашэнняў з'ездаў, планаў асноўных мерапрыемстваў Таварыства;

— правярае і дакументальна рэвізуе гаспадарча-фінансавую дзейнасць МТ БССР, яго апарату і непасрэдна падпарадкаваных яму арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў;

— накіроўвае і правярае работу рэвізійных камісій аддзяленняў;

— правярае парадак, своечасовасць і правільнасць разгляду запытаў, пісьмаў і скаргаў членаў Таварыства.

26. Рэвізійныя камісіі абласных, гарадскіх, раённых аддзяленняў Таварыства правяраюць дзейнасць адпаведных праўленняў, прэзідыумаў і непасрэдна падпарадкаваных ім арганізацый, устаноў, прадпрыемстваў, выкананне каштарыснай і штатнай дысцыпліны, уліку і справаздачнасці, своечасовасць разгляду прапаноў, заяў, пісьмаў і скаргаў членаў Таварыства.

Рэвізійныя камісіі праводзяць рэвізію па меры неабходнасці, але не радзей чым адзін раз на год. Пастановы рэвізійнай камісіі і яе прапановы павінны абмяркоўвацца на пасяджэннях прэзідыумаў, пленумаў адпаведных праўленняў і накіроўвацца праўленню вышэйстаячага аддзялення.

Рэвізійныя камісіі правамоцныя запрашаць спецыялістаў для аказання дапамогі ў правядзенні рэвізіі.

Выдаткі, звязаныя з дзейнасцю рэвізійнай камісіі, адносяцца за кошт сродкаў праўлення і прадугледжваюцца ў яго каштарысе.

## IV. СРОДКІ ТАВАРЫСТВА

27. Уся работа Музычнага таварыства Беларускай ССР ажыццяўляецца за кошт уласных сродкаў. Крыніцамі іх утварэння з'яўляюцца:

— уступныя і членскія ўзносы членаў МТ БССР;

— даходы ад вытворчай і выдавецкай дзейнасці;

— добраахвотныя ўзносы і іншыя паступленні.

МТ БССР і ўсе падведамасныя яму арганізацыі, установы, прадпрыемствы вызвалены ад дзяржаўных і мясцовых падаткаў, збораў, пошлін.

28. Сумы членскіх узносаў і іншых грашовых паступленняў адпаведнага праўлення Таварыства пералічваюцца на бягучы рахунак у Дзяржбанку. Парадак адлічэння сродкаў вышэйстаячым аддзяленням устанаўліваецца праўленнем Таварыства.

## V. ЮРЫДЫЧНЫЯ ПРАВЫ ТАВАРЫСТВА

29. МТ БССР, абласныя, гарадскія, раённыя аддзяленні валодаюць юрыдычнымі паўнамоцтвамі і могуць набываць правы і несці абавязкі адпаведна з устаноўленымі мэтамі іх дзейнасці.

30. Праўленне МТ БССР мае права ствараць ва ўстаноўленым парадку неабходныя для яго дзейнасці арганізацыі, прадпрыемствы і ўстановы, якія працуюць на падставе самастойных статутаў і палажэнняў (выдавецтвы, часопісы, майстэрні, магазіны, бібліятэкі, дамы творчасці, санаторыі), ажыццяўляць будаўніцтва жылых дамоў і г. д.

31. Даверанасці ад імя МТ БССР падпісваюцца старшынёй прэзідыума праўлення або яго намеснікам, даверанасці на атрыманне ці выдачу грошай і іншых маёмасных каштоўнасцей падпісваюцца таксама галоўным (старшым) бухгалтарам Таварыства.

32. Праўленне МТ БССР і праўленні абласных, гарадскіх, раённых аддзяленняў Таварыства маюць пячаткі і штампы з указаннем сваёй назвы.

## VI. ПАРАДАК ЛІКВІДАЦЫІ ТАВАРЫСТВА

33. МТ БССР спыняе сваю дзейнасць па рашэнні з'езда Таварыства. Усе пытанні, звязаныя са спыненнем дзейнасці МТ БССР, вырашаюцца адпаведна з дзейным заканадаўствам.

НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ

# ВЫДАННЕ РАДУЕ, АЛЕ...

Рэпертуарна - рэдакцыйная калегія Упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры БССР, Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і культурна-асветнай работы выпусцілі ў свет новы зборнік з серыі «Танцавальная музыка Беларусі»—«Танцы Столінскага і Баранавіцкага раёнаў Брэсцкай вобласці». Зборнік уключае 50 скрыпічных і гармонікавых найгрышаў, знойдзеных і запісаных у 1984 годзе нястомным прапагандыстам беларускага музычна - харэаграфічнага фальклору і стваральнікам гэтай серыі, загадчыкам аддзела харэаграфіі РНМЦ Міколам Козенкам у вёсках Вярхлессе, Скарадзінцы Баранавіцкага і ў вёсцы Харомск Столінскага раёнаў. Ад скрыпача з вёскі Вярхлессе Мікалая Сцяпанавіча Грыгорчыка (1902 года нараджэння) запісаны як вядомыя па назвах, але арыгінальныя па выкананні «Полька Янка», «Каханачка», «Кросны», так і рэдкія па зместу полькі «Вярхлеская», «Зоська» (у 2-х варыянтах), «Калгасная», «Цешча», кадрыля «Вярхлеская» (у 5-ці каленах), танцы «Абэрак», «Галоп».

Прыхільнікам беларускай народнай скрыпічнай музыкі цікава будзе пазнаёміцца з полькамі «Люся», «Грыц», «Шабасоўка», «Крэпальская», «Мазур», «Пастушок», танцам «Какетка», карагодам «Падушачка», вальсам «Баламут», вясельным танцам «Макавей», «Вясельнай песняй» (калі маладую праводзяць пад вянец), якія найграў скрыпач з вёскі Харомск Ілья Пятровіч Дранец (1924 года нараджэння). Зборнік змяшчае таксама польку «Пчолка» і «Беларускую польку» ў інтэрпрэтацыі гарманіста з вёскі Скарадзінцы Рыгора Рыгоравіча Слізеня (1926 года нараджэння) і два вальсы.

Усе гэтыя творы расшыфраваў з магнітафоннай стужкі і апрацаваў для скрыпкі, гармоніка і баяна кампазітар Алесь Рашчынскі, які часта звяртаецца ў сваёй творчасці да беларускага фальклору.

Выданне вельмі радуе, але хацелася б прапанаваць стваральнікам і выдаўцам такіх зборнікаў друкаваць іх тыражом не 1 000 экземпляраў, а значна большым, каб яны траплялі ў вольны продаж, каб імі маглі карыстацца не толькі самадзейныя артысты, але і музыканты-прафесіяналы. Дадам, што ў нас няма яшчэ адпаведнага зборніка расшыфровак цымбальнай музыкі, на якую багата наша беларуская зямля. Як цымбаліст, чакаю такога выдання.

**Аляксандр ЛЯВОНЧЫК,**
**саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

# ТВОРЫ КАШКУРЭВІЧА Ў ВІЛЬНЮСЕ

**У вільнюскім Палацы мастацкіх выставак працавала выстаўка твораў заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Арлена Кашкурэвіча, на якой было прадстаўлена каля ста работ — эстампы, малюнкі, ілюстрацыі да кніг.**

**Асаблівую ўвагу прысутных прыцягнулі цыклы «Партызаны» і «Блакада», у якіх аўтар услаўляе гераізм савецкага чалавека.**

**У. СТРУМІЛА.**

г. Вільнюс.

# НА СТАРОНКАХ «ЗВЁЗДОЧКІ»

**Штомесячны ілюстраваны часопіс «Звёздочка», які выдаецца ў Малдавіі на малдаўскай і рускай мовах для самых маленькіх, у трэцім нумары за сёлетні год знаёміць сваіх чытачоў з творамі Уладзіміра Ліпскага, Васіля Віткі, Ніны Галіноўскай, беларускай народнай казкай «Воўк», падборкай гумарыстычных карацелек.**

**М. РАВІЧ.**

# НЕСПАКОЙ

Яна была стваральнікам і першым шматгадовым дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы. Яна — Купаліха, Уладзіслава Францаўна, цёця Уладзя. У Міжнародны дзень музеяў, што на календары пазначаны 18 мая, варта ўспомніць добрым, ціхім словам і яе, прыгадаць моманты з музейнага жыцця.

Набіраў разгон музей Купалы. На службу прыходзілі маладыя дзяўчаты. Вырашалі «сюдэма-тудэма» свой сямейны лёс. І сталася, як згаварыліся, — адна за адной замуж.

Пачыналіся зацяжныя, шматмесячныя адпачынкі. Цёцю Уладзю гэта затрывожыла.

— Мусіць, пачну я знацца з мужчынамі, — дабрадушна казала яна.— Давядуць мяне гэтыя жанчыны!..

Пад уражаннем «абурэння» Уладзіславы Францаўны напісаў я верш. Чытаю супрацоўнікам. Смяюцца, каменціруюць. Уваходзіць цёця Уладзя. Змоўк я, утаймаваліся слухачкі. Яна ж:

— Чаго вы сціхлі?

— Ды тут пра Вас...— прызнаюся баязліва.

— То добра ж, калі пра мяне. Чытайце — і я хачу паслухаць.

Вымушаны быў раскрыцца перад ёю. Верш, дзякуй, богу, цёці Уладзі спадабаўся. Не раз пасля прасіла пачытаць перад наведвальнікамі.

З даўняга дазволу Уладзіславы Францаўны прапаную верш чытачам.

Чым то дзеецца ў музеі,
Што дзяўчаты, як адна,
Ледзь ступіць сюды паспее —
Замуж выйдзе — вось і на!

Ужо так нейк павялося:
Помню, летась, пад канец,
Неўпрыкмет хітруня Зося
Шыбанула пад вянец.

А за ёю (што за ліха!) —
Эй, была ці не была —
Наша Аня гэтак ціха
Сан кабеты набыла.

Віншавалі гуртам цэлым,
Чаркі выпілі да дна,
А тым часам на прыцэле
Ўжо была яшчэ адна.

Тут, у Мінску, не ўяўлялі,
Што ледзь месяц-два міне,
Як там Нэла ў філіяле
Век сямейны распачне.

Усіх здзівіла не на жарты,
Цёці Уладзі неспакой:
— Куды гэта, людзі, варта?
Больш работы ніякой!..

А на службу ішло многа,
Каб уладзіцца ляпей, —
Цёця Уладзя з асцярогай
Стала браць іх у музей.

Падшукала ўсё ж дзяўчыну,
Што пра замуж ані-ні,
Ёй дала жазло па чыну,
Пацяклі спакойна дні.

Час ішоў, ляцелі суткі.
Ды вось Люда адзін раз
Пра сябе сказала:
— Дудкі!
Чым я горшая за вас?!

Пасмяяліся нямала,
Люда ж вокам не міргне —
Цёця Уладзя:
— От навала
На музей і на мяне!

**І. КУРБЕКА.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Яўгену Лецку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

## ВЫСТАЎКІ

# ВЯЛІКІЯ МАГЧЫМАСЦІ МІНІ-ГАБЕЛЕНА

Два вясновыя месяцы ў Доме работнікаў мастацтва працавала выстаўка «Міні-габелен». Сціплая па маштабе (усяго 61 габелен, 18 аўтараў), яна была багатая на творчыя здабыткі, вызначалася разнастайнасцю выяўленчых пошукаў. Пры самым першым, нават павярхоўным знаёмстве з экспазіцыяй ёсць падставы сцвярджаць, што беларускі міні-габелен стаў з'явай у мастацтве рэспублікі, што нашы мастакі здатныя сказаць сваё арыгінальнае слова ў гэтай галіне мастацкай дзейнасці.

Міні-габелен стаў заяўляць пра сябе на рэспубліканскіх выстаўках 1980 — 1984 гадоў. Але гэта былі толькі эпізадычныя выступленні. Упершыню міні-габелен прадстаў як акрэсленая з'ява на групавой выстаўцы мастакоў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва 1985 года ў Заслаўі. Потым ён паўнаважка ўдзельнічае ў такіх прадстаўнічых экспазіцыях, як «Мы будуем камунізм», «Гармонія і асяроддзе», «Маладосць рэспублікі»...

А зараз мастацкі ўзровень беларускіх міні-габеленаў, узрастаючая колькасць гэтых твораў і цікавасць да іх грамадскасці далі магчымасць сфарміраваць і адкрыць спецыяльную выстаўку.

Пры ўсёй адметнасці з'явы, калі разглядаць яе больш уважліва, трэба сказаць, што народжана яна, як гэта ні дзіўна, перш за ўсё неўладкаванасцю быту мастакоў-габеленшчыкаў. Па сённяшні дзень абсалютная большасць спецыялістаў па касцюмах і мастацкіх тканінах не мае майстэрань. А паставіць ткацкі станок у кватэры для гараджаніна справа немагчымая. Таму ўсё болей даводзіцца мастакам, каб не згубіць прафесійныя навыкі, звяртацца да малых форм.

На жаль, гэты новы для Беларусі від ткацтва яшчэ не мае пэўнай вагі ў вачах кіраўніцтва Саюза мастакоў рэспублікі. Ды ўвогуле да патрэб мастакоў-габеленшчыкаў яно дагэтуль ставілася з дзіўнай абыякавасцю (будзем спадзявацца, што пасля з'езда мастакоў, які адбыўся нядаўна, становішча зменіцца ў лепшы бок). Бо як інакш разглядаць той факт, што на Усесаюзнай выстаўцы габелена і скульптуры, якая працавала ў Маскве ў 1986 годзе, беларускі габелен ніяк не прагучаў (хоць два беларускія мастакі і былі пазначаны сваімі творамі ў каталозе выстаўкі, пры ўсіх намаганнях адшукаць гэтыя творы ў залах экспазіцыі не ўдалося). А ў той жа час Грузія, Літва, Эстонія, РСФСР і іншыя рэспублікі прадставілі за 30 — 50 габеленаў кожная. Ці не крыўдны гэты факт, калі вядома, што ў рэспубліцы працуе сёння 43 мастакі габелена?



Л. ПЯТРУЛЬ. «Прыналежнасць да вечнасці».



В. БАРТЛАВА. «Партрэт дачкі».

І яшчэ. Наўрад ці сітуацыя ў гэтым цэху мастацтва палепшыцца, калі не будзе адноўлена і кафедра мастацкіх тканін, якая па невядомых прычынах была закрыта ў БДТМІ ў 1978 годзе.

Як від мастацкай творчасці нацыянальны міні-габелен адлюстроўвае характэрныя тэндэнцыі, уласцівыя і іншым відам выяўленчага мастацтва: змяшанне відаў і жанраў, з'яўленне рысаў, характэрных творам станкавістаў, дамінанта камерных сюжэтаў і тэм.

Найбольш уражваў на выстаўцы «Міні-габелен» эксперыментатарскі пачатак у творах. Гэта работы Л. Пятруль (габелены «Жанчына, зіма», «Дажджлівы вечар», «Вясна, разліў») Л. Скрыпнічэнка («Матэрыялізацыя часу»), А. Лось («Вясна»), А. Самохінай («Змей», «Гурбы»), Т. Белавусавай-Пятроўскай («Світанак»), Л. Дараніна («Веснавы эцюд») і інш.

Да смелага эксперыменту можна аднесці і ткацтва В. Грыдзінай. Яе нацюрморты, партрэты, «Жаночы партрэт I», «Жаночы партрэт II», «Прысвячэнне», выкананыя ў тэхніцы гладкага ткацтва, нагадваюць акадэмічныя малюнкі з натуры — здзіўляе майстэрства выканання, здавалася б, недасягальнае для габелена (якому, відаць, у большай ступені ўласціва манументалізацыя вобразаў, візуальнае абагульненне праяў рэчаіснасці).

Габеленшчыкі нібы спаборнічаюць паміж сабой, уносячы ў творы адметныя жывапісныя якасці. Тут і чароўныя колеры веснавых вод («Жывая вада» Л. Грыцэнка), і гарманічныя фарбы летняга суквецця лясоў і палёў у творах Н. Валынец, В. Бартлавай, Н. Пілюзінай, паэзія сціплай колеравай гамы зімовага краявіду («Зімовыя забавы» Г. Крываблоцкай).

І ўсё ж канструктыўныя рытмы жыццёвай рэчаіснасці перабіваюць жывую плынь лірычных, маляўнічых твораў. Яны настойліва нагадваюць, што ілюзіі застаюцца ілюзіямі, а рэчаіснасць вымагае напружаных разважанняў — («Світанак над Свіслаччу» Р. Шчамялёвай, «Нераскрытая энергія» Н. Пілюзінай, «Двое», «Муза», «Світанак» Г. Крываблоцкай).

Асобнай гаворкі заслугоўваюць габелены А. і Я. Шунейкаў, С. Свістуновіча. Яны вылучаюцца не толькі высокай культурай пабудовы колеравай кампазіцыі, але і зваротам да значных гістарычных, грамадзянскіх тэм. Зусім не проста расказаць пра гістарычную падзею *сродкамі міні-габелена*: творы «Заслаўска - мінскія харугвы пад Грунвальдам», «Праз стагоддзі» А. Шунейкі, «Ян Вісліцкі ў Кракаве» Я. Шунейкі, «Смутак», «Сутонне» С. Свістуновіча вызначаюцца цэласнасцю ўвасаблення і філасафічнасцю мастацкага мыслення. С. Свістуновіч, брат і сястра Шунейкі — адны з нямногіх, хто ідзе гэтым нялёгкім, але пачэсным шляхам як у працы над міні-габеленам, так і ў сваіх батыках (роспіс па тканіне).



А. ШУНЕЙКА (Гродна). «Праз стагоддзі».



Т. ЧУГЛАЗАВА. «Веснік».

Што ні габелен на выстаўцы ў Доме работнікаў мастацтваў, то абавязкова «новы твор» мастака, новае ўражанне. Вядома, мастацкія адкрыцці ў межах гэтай выстаўкі не назавеш буйнамаштабнымі, вызначальнымі, але, галоўнае, тут не было творчай шэрасці, што сустракалася на многіх рэспубліканскіх выстаўках апошніх гадоў.

Добра відаць, што мастакі беларускага габелена імкнуцца захаваць свае пазіцыі. Яны адчулі арыгінальныя магчымасці гэтага віду мастацтва, жывуць настроямі новых творчых пошукаў.

Мабыць, з часам зварот менавіта да міні-габелена не будзе прадыктаваны базавай неўладкаванасцю габеленшчыкаў, а стане адной з неабходных форм рэалізацыі іх творчых здатнасцей і магчымасцей.

**Т. ГАРАНСКАЯ.**




З 18 па 24 мая

19 мая, 20.10

**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА**

Выступае ўзорны дзіцячы ансамбль бальнага танца «Палеткі».

20 мая, 20.20

**РАМАНСЫ КАМПАЗІТАРАЎ-КЛАСІКАЎ**

Спявае народны артыст РСФСР Э. Пелагейчанка.

23 мая, 11.15

**«СЛОВА — ПАЭЗІІ»**

Вы пачуеце вершы А. Дракахруста.

23 мая, 11.30

**«СУЗОР'Е»**

Вусная народная творчасць — пытанні развіцця і захавання. «Круглы стол». Вядучы — кандыдат філалагічных навук П. Садоўскі.

23 мая, 12.30

**«КРЫНІЧНАЙ ЧЫСЦІНІ ЛЮБОЎ...»**

Кінанарыс пра самадзейную мастачку Л. Трохалеву з Гродзеншчыны.

23 мая, 19.55

**ТЭЛЕВІЗІЙНЫ ВЕРНІСАЖ. КАНЦЭРТ**

Выступаюць народная артыстка Грузінскай ССР Л. Ісанадзе і Дзяржаўны камерны аркестр Грузіі.

У праграме творы Вівальдзі, Расіні, Брамса, Шэнберга. Вядучая — музычны каментатар Э. Язерская.

23 мая, 23.00

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

«Прыкметы сезона». Музычная праграма з удзелам артыстаў беларускай эстрады.

24 мая, 20.10

**«У НЯДЗЕЛЮ ВЕЧАРАМ»**

Канцэрт з твораў кампазітара А. Санько. Вядучая — музыказнаўца І. Зубрыч.

24 мая, 23.15

**«НАКЦЮРН»**

Інтэрмецца Брамса гучыць у выкананні піяністкі З. Кагорскай.

## АБ'ЯВЫ



## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

**В. АКОЛАВА.** За тым лугам зелянеnькім. Лірыка. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. — 30 к.

**М. ГІЛЬ.** Камандзіроўка ў Вішанькі. Апавяданні, аповесці. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. 1 р. 60 к.

**А. ЗВОНАК.** Сябрына. Выбраныя творы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. — 2 р. 20 к.

**А. ЛОЙКА.** Пралескі ў акопах. Паэзія. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. — 70 к.

**М. МЯТЛІЦКІ.** Ружа вятроў. Вершы і паэмы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. — 85 к.

«литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 02159 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.